# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬ. ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLANL
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна
**Банкавае конто:** Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechsel-Bank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 36-37 (218-219) | Нядзеля 10 кастрычніка 1954 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 8

## Праўдзівае аблічча Мэндэз-Франса

У абставінах палітычнага жыцьця заходняга дэмакратычнага сьвету палітыка «закрытых карт» сталася, калі ня зусім немагчымай, дык прынамся крайня труднай. Дзяржаўныя мужы не зьяўляюцца больш ніякай энігмай для шырэйшых колаў грамадзкасьці. Дзяржаўныя тайніцы становяцца ўсё больш і больш рэдкімі. Удзел шырокіх масаў у палітычным жыцьці стаўся на столькі вялікім, што амаль кожны важнейшы палітычны ход вымагаў кансультацыі парлямэнту, што раўназначна із кансультацыяй грамадзкай апініі. Амаль неаграніччаная аўтаномія прэсы й радыя, да якой даходзіць што раз узрастаючы мамэнт тэлевізыі, практычна ў карані выэліміноўваюць заслону містэрыі вакруг палітыкі, ці палітычных дзеячоў, як-бы яны не намагаліся ёю прысланіцца. Вось-жа якраз асабістасьць Мэндэз Франса, прэм'ера міністраў і міністра замежных спраў Францыі была і ў вялікай меры зьяўляецца яшчэ й сяньня тым выняткам і унікатам сяньняшняга дня. Мэндэз Франс патрапіў ня толькі завуаляваць сябе, як асабістасьць, але і сваю палітыку перад шырокімі масамі так францускага, як і грамадзтва іншых краінаў. Аб'ектыўна трэба прызнаць, што ягоная асабістасьць не штодзённага характару. Ён узяў у свае рукі дзяржаўны руль у пэрыяд надзвычай крытычны і цяжкі для Францыі. Ён патрапіў па-мастацку выкарыстаць псыхалягічны настрой масаў і зайграць на найбольш балючай струне Французаў. Францыя была канчаткова зморана вайной у Індакітаі. Народ хацеў міру. У гэты мамэнт зьяўляецца Мэндэз Франс і заяўляе: «Дайце мне ўладу і мір будзе падпісаны на працягу аднаго месяца». Ён таксама ўмела зайграў на публічнай апініі іншых народаў, а асабліва Амэрыканцаў, заяўляючы, што ён ня прыме інвэстытуры свайго ўраду, калі не атрымае бальшыні галасоў ня ўлічваючы галасоў камуністых. Амэрыканская прэса, якая пачаткова зь вялікім недаверам прыглядалася да Мэндэз Франса, пачынае адзывацца аб ім, як аб «моцным чалавеку». Гэтае паняцьце «моцнага чалавека» дзейнічае, як ведама, нейк магічна на амэрыканскую апінію.

Мэндэз Франс датрымоўвае слова, дадзенага францускаму парлямэнту і падпісвае мір з Го-Чы-Мінам. Для нас гэты мір зьяўляецца толькі першай фазай аканчальнай перамогі камуністых у Індакітаі. Памінаючы чыста маральны аспэкт гэтага міру, дзякуючы якому мільёны верных сыноў Ветміну, адданых саюзьнікаў Францыі, атрымалі сьмяротны ўдар ў сьпіну, а разам зь імі мільёны чэсных антыкамуністых у Кітаі, Савецкім Саюзе і іншых паняволеных камунізмам краінах. Гэты мір значна аслабіў так стратэгічныя, як і псыхалягічныя пазыцыі дэмакратычнага Захаду. Амэрыканцы гэта зразумелі даволі добра, бо «абмылі рукі» ад індакітайскай афэры.

Аднак Мэндэз Франс выносіцца на п'едэстал вялікага чалавека ў францускай апініі. Ён асягнуў тое, чаго скрыта ці наяўна жадаў амаль кожны Француз. Нічога тады дзіўнага, што Мэндэз Франс атрымаў аграмаднай бальшынёй галасоў неаграніччаныя паўнамоцтвы на найбліжэйшы пэрыяд часу так у пытаньнях вонкавай, як і нутранай палітыкі. Умовы падпісаньня міру ў Індакітаі былі ўжо часткава халоднай вадой на амэрыканскую публічную апінію, але прэса паўстрымоўвалася ад крытыкі, каб не дражніць Мэндэз Франса перад набліжаючайся Бруксэльскай Канфэрэнцыяй, якая мелася вырашыць лёс Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці. Для шматлікіх аднак палітычных камэнтатараў пытаньне Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці прадстаўлялася ў даволі мала абнадзейваючых колерах. Цяжка было пазбыцца ўражаньня, што Мэндэз Франс не зьвязаўся нейкімі неапублікаванымі забавязаньнямі у адносінах да Савецкага Саюзу ў сэнсе каб не дапусьціць ня толькі да аканчальнага прыняцьця Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці, але і ў напрамку утрудненьня ўсялякіх спробаў узмацненьня вайсковага патэнцыялу Заходняй Эўропы і асабліва недапушчэньня да ўзбраеньня Нямеччыны. Выходзячы із заложаньня, што Жэнэва зь яе вынікамі прайшла паводля плянаў Масквы, трэба спадзявацца, што на шматлікіх спатканьнях із Молатавым была парушана праблема й Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці, як і ўзбраеньня Нямеччыны. Ведама таксама, што Саветы намагаліся склікаць яшчэ адну канфэрэнцыю «чатырох» і гэтае пытаньне часта ўзьнікала ў выступленьнях Мэндэз Франса. Цяжка сяньня сказаць як вялікія былі, калі былі нагул, забавязаньні перад Молатавым, аднак лёс Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці быў вырашаны галасамі камуністых. Дзіўна, што Мэндэз Франс, які некалі абяцаў, што ён ня будзе ўлічваць галасоў камуністых, у выпадку Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці якраз на іх абапёрся. У далейшым ён робіць усё магчымае, каб не дапусьціць да ўзбраеньня Нямеччыны. Аднак, гэтым разам, маска містэрыі звалілася зь яго твару. Сяньня Мэндэз Франс ня цешыцца ўжо тым даверам заходніх краінаў, які ён меў яшчэ да нядаўна. Ягоная таямнічасьць, недасказваньні, двузначныя прамоўчваньні, выклікаюць слушны недавер. Дзякуючы яму адносіны паміж Францыяй і Амэрыкай асягнулі дасюль нябывалы ступень напружанасьці, што таксама вельмі добра ўкладаецца ў пляны Масквы. Разам з гэтым агульная апінія пачала цікавіцца бліжэй асабістасьцю Мэндэз Франса й яго акружэньнем. «Ля Лібр Бэльжык» кідае даволі цікавае сьвятло на гэтую справу. У нумары за 25 верасьня яна піша: «Слушна ці ня, але ў заходніх сталіцах лічаць, што акружэньне Мэндэз Франса складаецца ў вялізарнай бальшыні із небясьпечных людзей, перакананых нэўтралістых, паталягічных амэрыканафобаў і сымпатыкаў камунізму». Паміж імі Жорж Борыс, дарадчык Мэндэз Франса, які свайго часу расцэньваўся як інструмант савецкай прапаганды, Сэрван Шрайбэр, дырэктар тыднёвіка «Экспрэс», перакананы нэўтралісты, Сімон Нора, ведамы із сваіх «вельмі левых» перакананьняў, Альфрэд Саўвы, натарычны філякамуністы, супрацоўнік амаль усіх нэўтралістычных часапісаў і арганізатар «славутнае» эканамічнай канфэрэнцыі ў Маскве, і шмат іншых.

Як бачым, што таямнічасьць у сяньняшніх абставінах рэч, калі магчымая, дык ня доўгавечная. Раней, ці пазьней яе пранікнуць прамяньні цікавасьці публічнай апініі. Нам нельга сказаць паколькі ўсе гэтыя падозраньні слушныя, але мусім пагадзіцца із фактам, што яны нейк дзіўна гарманізуюць із палітычнай лініяй Мэндэз Франса.

Трэба спадзявацца, што ягоная нявыразная гульня хутка будзе разшыфраваная, да чаго ў вялікай меры спрычыніцца канфэрэнцыя дзевяцёх, дзе Мэндэз Франс павінен будзе сказаць сваё апошняе слова.

Мы Беларусы разам із іншымі эміграцыямі паняволеных бальшавізмам народаў, асабліва зацікаўлены ў аканчальным высьвятленьні палітычнага аблічча Мэндэз Франса. Мы знаёмыя з рознымі спосабамі бальшавіцкай пэнэтрацыі ў рады антыкамуністых, але не на такім высокім узроўні.

Нам хацелася-б, каб гэтыя прыпушчэньні аказаліся ўяўленьнем, а не рачаіснасьцю, бо мы ведаем гэраічнае мінулае вялікага францускага народу й ягоную воляльюбівасьць. Мы хочам бачыць яго ў радах змагароў супраць сусьветнага камунізму — турмы свабоды.

**С. Турцоў**

## Вывучайма дакладней жыцьце на Бацькаўшчыне

Быць ці ня быць —
вось дзе праблема.
В. Шэксьпір.

Справа, якую мы хочам закрануць тут, не прадстаўляецца пакульшто так безнадзейна, як сытуацыя героя Шэксьпіравай трагэдыі, а таму й гаварыць аб ёй не запозна. Важкасьць праблемы выцякае з тога, што гутарка йдзе аб нас самых ды аб усёй сутнасьці нашага быту, інакш кажучы — аб беларускай эміграцыі.

Пачнем хіба ад самага пачатку, ад акрэсьленьня-прыпамненьня самога зьявішча палітычнае эміграцыі, хоць на гэтую тэму сьпісана ўжо дзясяткі таўстых томаў. Пачатак разуменьня гэтага зьявішча ляжыць у трапнай дэфініцыі яго. Палітычная эміграцыя — гэта частка народу, якая, у пратэсьце супроць пануючага палітычнага рэжыму на сваёй бацькаўшчыне, адрываецце ад цэласьці і, застаючыся ў духовай лучнасьці з народам, стараецца ўсімі даступнымі спосабамі ўплысьці на зьмену — палепшаньне пануючага рэжыму. Дэфініцыя ў дадзеным выпадку — рэч прынцыповая, бо зь яе мусіць выцякаць правільнае разуменьне аснаўных абавязкаў палітычнага эміграта й дакладнае ўяўленьне агульнага характару цэлае місіі. Якія-ж гэтыя абавязкі й місія беларускае эміграцыі? Перш за ўсё — гэта сталая аб'ектыўная й актуальная інфармацыя вольнага сьвету аб палажэньні тае цэласьці, ад якое мы, ейная частка, адарваны бегам гісторыі. Паўтараем яшчэ раз: сталая, аб'ектыўная (абапёртая на фактах) і **актуальная** інфармацыя. Не драматычныя позы й стуканьне кулаком у грудзі ад успамінаў аб перажытай 10 ці 15 год таму асабістай трагэдыі, а рэчовыя, абаснаваныя довады тэй вялікай крыўды, што дзеецца цэламу паняволенаму народу.

Пры гэтым трэба высьцерагацца абабітае прыхваткі прадстаўляньня камуністычнага рэжыму, як беспрасьветнае сэрыі крывяжэрных актаў, татальнага зьдзеку й людаедзтва, бо ў гэта перастануць верыць тыя (а гэткіх, нажаль, шмат), для каго камунізм — гэта голая ружовая дактрына Маркса-Сталіна, і ў галаве якіх ня могуць мясьціцца выключна крывавыя вобразы лубянскіх падвалаў.

Акрамя гэтага, камунізм побач з хітрай брутальнасьцяй, што заўсёды будзе ягонай галоўнай прыкметай, мае ў сабе кемлівы розум, што пхае яго на шэраг пазытыўных у сабе сацыяльных і эканамічных манэўраў, за якімі, пэўна-ж, хаваецца прасьледваньне аднае й нязьменнае мэты — сусьветнае маскоўскае дыктатуры.

Сіла кажнае дактрыны, будучы ў сабе зьявішчам пазытыўным, мусіць выцякаць з пэўных дадатных бакоў дадзенае дактрыны. Камунізм, сілу й небясьпеку якога адчуў цэлы сьвет, мусіць мець недзе й аб'ектыўныя рэсурсы свае моцы. Значыць, шуканьне выключна адмоўных бакоў у савецкай сыстэме — гэта, папершае, аднабаковае прадстаўляньне праблемы, а, падругое, шкоднае звужваньне вобразу загрозы, што вісіць над вольным сьветам. Прыкладам, мы ня можам уяўляць сабе камуністычную армію, як прымусовае й здэмаралізованае галоднае зборышча, бо ўдар будзе камплетны, фізычны й маральны, калі ўрэшце наткнемся на ўзброеную й баяздольную масу. Тое самае датычыць прадстаўляньня ўсіх іншых аспэктаў камуністычнае сыстэмы. Няма горшае памылкі ў змаганьні, як недаацэньваньне сілы праціўніка. Адсюль выцякае неабходнасьць уяўляць сабе поўную, а ня штучна зьменшаную, небясьпеку, калі мы хочам удачна змагацца зь ёй.

Для аб'ектыўнасьці інфармацыі патрэбная актуальнасьць. Як-жа мы можам інфармаваць вольны сьвет аб цяжкасьцях і зьдзеку, у якіх пакутуюць цяпер беларускі селянін, работнік і інтэлігент, калі для нас Беларусь сталася застылым на 44-ым годзе вобразам краю ў пажары й руінах. Калі мы цяпер прыходзім да разьбіраньня сучасных беларускіх праблем, дык нашы фактычныя веды бездапаможна абываюцца на гэнымжа малюнку апошняга разьвітаньня, і на гэтай пэрспэктыве мы будуем нашу аргумэнтыцыю, выснавы й пляны на будучыню. Тымчасам, жыцьцё на акупаванай Беларусі не стаіць на месцы, як гэныя нашы вобразы-ўспаміны.

Цьвярдзіня беларускага нацыянальнага кансэрватызму, якая-б яна цьвёрдая ня была, ня зможа непарушна ўтрымацца на сваіх пазыцыях 44-га году пад наступам філязафічнае дактрыны ды нацыянальнае палітыкі чырвонае Масквы. Яшчэ 10—15 год, і на Беларусі зьявіцца маладое пакаленьне, выхаванае ў зусім новых абставінах, із сваім асаблівым сьветапаглядам. Уплыў савецкае сучаснасьці не застанецца бязь сьледу й на тых, што ўжо сяньня пачынаюць брацца за адміністрацыйны, узгадаваўчы й палітычны руль. Калі мы ня будзем сачыць за ўсімі праявамі жыцьця на бацькаўшчыне, калі ня будзем аналізаваць і старацца расшыфраваць бальшавіцкія мэтады й паасобныя мэты, дык можа прыйсьці час, калі мы зусім страцім здольнасьць разумець, што робіцца на Беларусі, і пры першай сустрэчы (добра, калі яна не за гарамі!) із сваімі аднадумцамі ня зможам знайсьці супольнае мовы.

Да рэчы, дазволім сабе прыпомніць гратэскавыя фігуры старых расейскіх эмігрантаў, якія ў лягеры ваеннапалонных у 1946-ым годзе, у чарзе па суп з парашай у руках, здароваліся: «С добрым утром, граф Курскій!» «Здравія желаемте, барон Орловскій!» А побач, калішні чырвонаармеец спад Калугі лі-

(Заканчэньне на 2-ай балоне)

## Адкрыцьце Генэральнай Асамблеі ЗН

Задзіночаныя Нацыі... Колькі шляхотнага, людзкага зьместу ўкладалася у гэтае паняцьце ініцыятарамі, заснавальнікамі гэтак пачэснай арганізацыі сьветавага значэньня.

Колькі прыгожых словаў было выказана на гэтую тэму выдатнейшымі прадстаўнікамі міжнароднай апініі, словаў пацехі, словаў свабоды, роўнасьці, братэрства, словаў прыязьні, добрасумленнасьці ў навазе людзкага, суседзкага, міралюбнага рэгуляваньня ўсялякіх міжнародных канфліктаў!

Але ці заўсёды шляхотныя намеры сумленных людзей дасягаюць мэты, калі гэтыя людзі ў асьляпленьні сваёй просталінійнасьці ня бачаць двулічнасьці няўдала выбраных сабе партнэраў?... Адказ знайсьці ня цяжка. Дае яго практыка дзейнасьці апошніх гадоў славутых Задзіночаных Нацыяў...

Задзіночаных, але... толькі ў чым тое задзіночаньне? Хіба што ў велічы самага будынку ў цэнтры Нью-Ёрку, у велічы пустазвонства і нахабнасьці чырвоных ад людзкой крові г. зв. «народных» прадстаўнікоў бальшавіцкага блёку? Сумлеўнай якасьці такое задзіночаньне!

Дык ці варта было тады траціць гэтулькі часу і сяродкаў дзеля пабудовы гэтак мадэрнага будынку у вадзінай краіне сьвету із запраўднай дэмакрацыяй, у ЗША?

Ці варта было і ёсьць траціць народныя капейкі толькі на тое, каб утрымоўваць безьліч абслугі гэтага палацу, каб утрымоўваць армію дармаедаў — прадстаўнікоў ад 60-ех народаў, каб яны штогод па колькі месяцаў выслухоўвалі фарызэйскія словы міжнародных круцялёў і бандытаў із пад знаку сярпа й молата ў той час, калі пад іхную ілжывую кляцьбу аб міралюбстве, мільёны людзей Кітаю, Карэі, Інда-Кітаю, ды іх собскіх краёў, усьцілаюць сваімі трупамі бязьмежныя прасторы, калі іншыя мільёны пакідаюць руйнаваныя праз усялякіх прыхвасьняў гэтых ілжывых «салаўёў міру» спрадвеку наседжаныя родныя гнёзды ды туляюцца ў горы і сьлёзах па сьвеце?

Ці варта ўсё гэта?... Што гэта дае чалавецтву?... Які тут сэнс, якая мэта?...

Людзі, вялікія людзі, магутныя сучаснасьці, сьветлыя галовы, зь незразумелых прычынаў, кажуць, што... **варта.** Кажуць: чакайце — прыйдзе час (які? Калі і іх праглыне ненажэрны молах?), некалі **нешта будзе!**

Што-ж, што-ж астаецца нам слабым, звычайным сьмяротным? — **чакаць...** і **слухаць...** слухаць і чакаць... А мы спадзяваліся... ды што-ж мы?... О, гіронія долі!...

☆

Яшчэ за колькі дзён да адчыненьня сэсіі вакол будынку і ў кулюарах самога будынку ЗН адчувалася вялікая напружанасьць, рух, ажыўленьне. Загадзя было ведама, што Вышынскі ізноў узьніме баталію за ўвядзеньне ў склад сяброў ЗН «народна-дэмакратычнага» Кітаю Мао-Тсэ-Тунга. Пачынаюць зьяжджацца дэлегаты, ходзяць чуткі аб прыбыцьці міністраў замежных спраў: Ідэна, Мэндес Франса, аб выступленьні на сэсіі стэйтс сакратара ЗША Джон Фостэр Даллеса. Словам, як кажуць Амэрыканцы, мае быць «big show». Але як трапіць на гэты паказ, каб пазьней падзяліцца із сваімі суродзічамі аб уражаньнях, гэта усёж цікава?

Паводля чутак, карэспандэнты газэтаў могуць дастацца вельмі лёгка. Дык чаму-ж ня спытаць шчасьця? Балазе «бас» пад носам — 15 туды ды 15 назад, і толькі таго страху. Вялізарны, ссенечны гол будынку паседжаньняў агульных і сэкцыяў ЗН. Насупраць уваходу, на невялікім узвышаньні, узброеныя тэлефоннымі апаратамі, якімісь картатэкамі, нататнікамі, зьяе вясёлкавымі колерамі колькі размалёваных паненак...

— Скажэце, калі ласка, як трапіць на адно із паседжаньняў ЗН?

— Займеце месцэ, там налева, і чакайце...

— Як, да заўтра?

— Чаму да заўтра? За 2 гадзіны пачнецца «соўшэл кансыл») там налева ўжо чакаюць на «тыкетс» (білеты).

— Але я хацеў-бы **заўтра**, на адчыненьне Генэральнай Асамблеі...

— Прыдзеце **заўтра**, — «нэкст!» (наступны), і чароўная галоўка адвярнулася здэнэрваваная маёй настырлівасьцю. Пераступіўшы з нагі на нагу, ізноў да галоўкі:

— А калі ад прэсы, дык як?

— Ад якой прэсы?

— Ад беларускай...

— Належыце да Саюзу Карэспандэнтаў ЗН?

— Не...

Галоўка ізноў адвярнулася, але адной рукой ухапілася за тэлефон, другой за алавік, па часіне:

— Вось вам пропуск да містэра X, паверх 4, пакой №..., там і гаварэце...

Давялося добрых з поўгадзіны мітусіцца па лябірынце бясконцых калідораў, сходаў, покояў, праходаў, паўзь мілаўхмыляных і добра адгадаваных на твары зэнаўскіх паліцаяў, пакуль знайшоўся той пакой №... зь містарам X. Пацехі ад гэтага, аднак, было ня шмат. Праўда, містар X, як містар — нічога не закінеш, — салідны, ветлівы, крыху толькі неяк зьбянтэжыўся, калі даведаўся, што нехта і ад беларускай прэсы хоча ўткнуць свой нос. Ён, пасьля пэўнай развагі вельмі ветліва параіў... «зьвязацца» зь... «беларускай» дэлегацыяй у АН, бо інакш, ён «сорры» — нічога зрабіць ня можа, трэба быць акрэдытаваным пры Задзіночаных Нацыях.

Містар X, ня менш ветліва, атрымаў адказ, што беларуская прэса на эміграцыі таксама «сорры», але ня можа, «зьвязвацца» із нейкай беларускай дэлегацыяй у АН, бо (вельмі-ж «сорры») запраўднай беларускай дэлегацыі ў ЗН яшчэ дагэтуль няма. Пасьля ўзаемнага яшчэ раз «сорраньня», містар X параіў беларускай прэсе зьвярнуцца непасрэдна да ЗН аб акрэдытаваньні сваіх карэспандэнтаў пры ЗН, тады будзе іншая гутарка.

(Заканчэньне на 2-ай балоне)

# Дзьве канфэрэнцыі у Парыжы

(Працяг з 2-ой балоны)

аб «Дзейнай Радзе» нябожчык прэз. Грузыі А. Гегечкоры, як старшыня Камісіі Сувязі, склікаў у траўні месяцы г. г. канфэрэнцыю былых удзельнікаў праектаванага МАКЦ-у. Канфэрэнцыя гэна адхіліла праект аб «Дзейнай Радзе» ўва ўсіх яго аснаўных пунктах, заяўляючы адначасна, што ўспомненыя арганізацыі гатовыя прыступіць да новых перагавораў. У выніку гэтага Амэрыканскі Камітэт дня 24 траўня зьвярнуўся да прэз. Абрамчыка з просьбай узяць на сябе пасярэдніцтва ў перагаворах і прадставіць канкрэтныя ўмовы, на падставе якіх датычныя арганізацыі гатовыя да супрацоўніцтва з Ам. Камітэтам. Прэз. Абрамчык на пажаданьні Ам. Камітэту і пажаданьні зацікаўленых арганізацыяў згадзіўся на пасярэдніцтва і пасьля пэўнай кансультацыі, як з прадстаўнікамі Ам. Камітэту, так і з эміграцыямі, склікаў на дзень 28 жніўня канфэрэнцыю ў Парыжы.

Як бачым з каротка наведзенай тут гісторыі аб перагаворах эміграцыяў з Ам. Камітэтам на працягу апошняга году часу, канфэрэнцыя скліканая прэз. Абрамчыкам павінна была адгуляць ролю нейкага фіналу.

Запросіны на гэту канфэрэнцыю былі разасланыя палітычным цэнтрам 8-мі нерасейскіх народаў і 2-ум расейскім арганізацыям (ЛІЗЕ і СБОНР-у). Дзьве апошнія арганізацыі ня прыбылі. ЛІГА з тэхнічных, а СБОНР з фінансавых прычынаў. Восем-жа цэнтраў нерасейкіх народаў на канфэрэнцыі былі прадстаўленыя ў наступным складзе:

**Азэрбайджанцы:** Ад Азэрбайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Нацыянальнага Камітэту — 2 дэлегаты.

**Армяне:** Ад Армянскай Дэм. Рэспублікі і партыі Данашнакцюцюн — 3 дэлегаты.

**Грузіны:** Ад Грузінскай Нацыянальнай Рады — 3 дэлегаты.

**Паўночна-Каўкасцы:** Ад Паўн. Каўкаскага Нацыянальнага Камітэту — 1 дэлегат.

**Ідыл-Уральцы** былі заступлены ўпаўнаважаным Паўночнага Каўказа Саід бэям Шамілям.

**Туркестанцы:** Ад Туркелі — адзін дэлегат.

**Украінскую Нацыянальную Раду** прадстаўляў прэм'ер Сазонцеў і міністар вонкавых справаў — інж. Андрыеўскі.

**Беларуская** дэлегацыя складалася з прэз. Абрамчыка і Ал. Арэшкі.

Апроч дэлегатаў прысутнічала на канфэрэнцыі каля 10-ёх гасьцей, у тым ліку і прыбылы з Турэччыны вядомы азэрбайджанскі дзеяч, б. старшыня Азэрбайджанскага парляманту, Д-р. Расулзадэ, які дагэтуль стаяў з боку ад акцыі Ам. Камітэту. Прыехаў таксама і прадстаўнік Амэрыканскага Камітэту містэр Пэч.

З уступной прамовы прэз. Абрамчыка, як старшыні канфэрэнцыі, затым прывітальнай прамовы прадстаўніка Ам. Камітэту містэра Пэча і іншых уступных прамоваў дэлегатаў адразу адчулася, што канфэрэнцыя гэта стаіць перад асабліва цяжкім заданьнем, што ад пастановаў яе будзе залежыць, што або паўстане нейкі супольны фронт эміграцыі із Ам. Камітэтам для змаганьня супроць бальшавізму, або кажны з двух бакоў пойдуць сваімі шляхамі.

Пасьля гэткай уступнай часткі канфэрэнцыі, грунтоўнага абмену думкамі і аналізы агульнай сытуацыі, было прыступлена да разгляду праектаў супрацоўніцтва з Ам. Камітэтам падгатаваных некаторымі дэлегатамі яшчэ дома. Спрэчкі над праектамі, які зь іх узяць у васнову для дыскусіі, пратрывалі амаль два дні. Узгодніць пагляды ў так важным пытаньні 8-мі народаў аказалася справай ня так лёгкай. Выхад адылі быў знойдзены. Было запрапанавана два праекты, якія якраз і выклікалі разыходжаньне ў дэлегатаў. Прапазыцыя гэтая была прынятая й выбраная рэдакцыйная камісія прыступіла да апрацоўкі паасобных пунктаў абодвух праектаў.

Першы з праектаў прадбачыў стварэньне адзінага цэнтру па прынцыпу нацыянальных прадстаўніцтваў, другі двух асобных цэнтраў; цэнтру нерасейскіх народаў і цэнтру расейскіх арганізацыяў. У вабодвых праектах выключалася якая-небудзь супольная палітычная пляцформа, а мелася наўвеце толькі каардынацыя дзеяньня ў практычнай працы змаганьня з бальшавізмам.

На чацьверты дзень абодвыя праекты былі канфэрэнцыяй прынятыя. Прэз. Абрамчыку было даручана, пры высылцы абодвух праектаў Ам. Камітэту, далучыць яшчэ ад сябе, як старшыні канфэрэнцыі суправодны ліст з адпаведнымі камэнтарамі.

Пры закрыцьці канфэрэнцыі дэлегатамі была выказана падзяка старшыні за ўдалае давядзеньне канфэрэнцыі да канца.

⁕

1—2 верасьня адбылася канфэрэнцыя Парыскага Блёку. Пры абмене думак адносна нутранага **жыцьця і вонкавай ак**цыі Парыскага Блёку было сьцьверджана, што ня гледзячы на тое, што Парыскі Блёк за кароткі адносна час свайго існаваньня набыў так шырокай папулярнасьці і павагі ў шырокім сьвеце, мае ён адылі і пэўныя недахопы ў сваёй арганізацыйна-структуральнай часьці.

Пры заснаваньні Парыскага Блёку сябры-фундатары не ўважалі тады за патрэбнае прыняцьце нейкага статуту, нармуючага іх нутраныя ўзаемадачыненьні, а абмежыліся толькі апублікаваньнем у прэсе камунікату аб агульных заданьнях і супольнасьці інтарэсаў сяброў Парыскага Блёку. Апроч камунікату быў яшчэ падпісаны пратакол, які забавязываў сяброў Блёку да каардынацыі акцыяў у вызвольным змаганьні. Але згодна гэтага пратаколу не прадбачвалася стварэньня сталага выканаўчага воргану П. Б., а толькі кантактныя камісіі, функцыі якіх зводзіліся да інфармацыі цэнтраў. На канфэрэнцыі 1—2 верасьня г. г. дэлегаты прыйшлі да згоды аб патрэбе ўнесьці да пратаколу пэўныя дапаўненьні, а панад існуючымі кантактнымі камісіямі стварыць выканаўчы камітэт. Дзеля гэтага канфэрэнцыя выбрала была рэдакцыйную камісію, якая на працягу аднаго дня выпрацавала праект у фэрме статуту, які мае быць перасланы ўсім цэнтрам, сябром Парыскага Блёку для ратыфікацыі, а таксама выбраны Часовы Выканальны Камітэт.

У склад Выканальнага Камітэту ўвайшлі:

1. Прэз. М. Абрамчык, як Старшыня (Беларус),
2. С. Тэр-Тумасьян, як Сакратар (Армянін),
3. Акпэр-Ага Шэйх-ул-Іслам, сябра (Азэрбайджан).

Апроч гэтага прынята была пастанова, што кажны із сяброў Парыскага Блёку можа дэлегаваць да складу Выканальнага Камітэту свайго прадстаўніка. Сядзібай П. Б. будзе Парыж.

5-га верасьня беларуская і ўкраінская дэлегацыя ладзіла дэлегатам абедзьвюх канфэрэнцыяў супольную разьвітальную вячэру.

**А. А.**

# Эмвэдысты у ролі знаўцы беларускіх справаў

ЧК — ГПУ — НКВД — МВД. З гэтых скаротаў, якія ганарліва-пастрашліваназываюцца «мячом пралетарскай дыктатуры», сьцякае кроў нашага народу, цела якога ўжо блізу чатыры дзесяткі гадоў паласуе ўсё той-жа «меч». Вось чаму ў народнай сьведамасьці энкавэдысты і кат — паняцьці роўназначныя, увасабленьне чорнага злачыну й агіды.

Блізу праз увесь час людзі гэтай пароды трымаліся ў межах натуральнай для іх атмасфэры й дзейнасьці ці то ў ролі абцінальнікаў усялякіх адхіленьняў ад «генэральнай лініі», ці то ў ролі дбайнікаў змушанай тэрорам народнай глухой пакоры пры інсьпіраваных воклічах «няхай жыве», ці то ў ролі майстроў допытаў, на якіх ахвяры прызнаюцца да няведамых ім злачынаў, ці то ў ролі вярбоўнікаў дармовай нявольніцкай сілы для «будоўляў камунізму».

Пасьля апошняй вайны сам міністар МВД БССР, нацыянальна чужы народу Цанава наважыў парушыць традыцыі сваіх папярэднікаў і ўзяўся за пяро. Вынікі ягонага пісаньня занялі аж два вялізарныя тамы пад назовам «Усенародная партызанская вайна на Беларусі супроць фашыстаўскіх захопнікаў», выдадзеныя на расейскай мове ў Менску ў **1949—1951 г. г.**

Як-жа выглядае Цанава ў новай для яго ролі знаўцы й тэарэтыка беларускай справы? Як і трэ было чакаць, ён застаўся тым-жа эмвэдыстым у сваім «навуковым» наезьдзе на мінулае й сучаснае нашага народу.

Вось «ідэйны» стрыжань усяго напісанага Цанавай: беларускі народ заўсёды падтрымваў расейскіх бальшавікоў як сваіх правадыроў, пайшоў «у нацыянальным пытаньні... шляхам, паказаным партыяй Леніна-Сталіна», заўсёды імкнуўся да «ўмацаваньня саюзу» з савецкай Расеяй, прызнаваў савецкую ўладу за «адзіна законную ўладу», якая дала яму нацыянальную дзяржаўнасьць, свабоду й багатае жыцьцё. Адсюль робіцца выснаў, што «залаты век беларускага народу пачаўся пры савецкай уладзе . . у дружнай сталінскай сям'і народаў Савецкага Саюзу, навечна згуртаваных магутнай сацыялістычнай Русьсю». Усё гэта патрэбна для абгрунтаваньня выходнай, галоўнай тэзы: бальшавізм і народ — непадзельная, загартаваная жыцьцём еднасьць.

Каму-каму, а Цанаве — гэтаму доўгагадоваму ахоўніку ідэалягічнай чысьціні на Беларусі, найбольш кампэтэнтнаму ў справах здушэньня найменшых нацыянальных праяваў у краі вельмі добра ведамая ўся лухта гэтых афіцыйных цьверджаньняў. Міністар ня вызваў ні арыгінальнасьці думаньня, ні звычайнай сумленнасьці да гісторыі.

Яшчэ ў 1928 г. адзін зь зьліквідаваных ягоных папярэднікаў, нязьменны праз доўгія гады першы сакратар ЦК КП(б)Б Кнорын, выступаючы супроць нашых нацыянальных традыцыяў, цьвердзіў у сваім артыкуле «Рашаючыя „дробязі" у вялікім пытаньні», што залаты век беларускай культуры бярэ свой пачатак не ад сярэднявечнага манаха Скарыны, а ад бальшавіцкага кастрычніка, што бальшавікі «супраць таго, каб улучыць сярэднявечных манахаў у лона папярэднікаў нашае культуры». Кнорын нашае нацыянальнае мінулае называў легендай, мітам і патрабаваў «супраць гэтага змагацца» ды пагражаў так «раскрытыкаваць» «Смаляцічаў і Тураўскіх, што двух радкоў ім будзе шкада прысьвяціць у нашай гісторыі».

Не арыгінальны Цанава і ў прысьцёбнутай канцоўцы пра «сацыялісычную Русь», якая зьяўляецца пасьляваеннай праяваю шавіністычнага русіфікатарства пад сьцягам вышэйшасьці й пяршынства «вялікага расейскага народу». Не жадаючы лічыцца зь гістарычнымі фактамі, абыходзячы змаганьне расейськіх манархаў за падначаленьне сабе Беларусі — Цанава, кірукючыся афіцыйным патрабаваньнем, цьвердзіць пра традыцыйны хаўрус Расейцаў зь Беларусамі. Ён навет залічыў да русафілаў Кастуся Каліноўскага, які жыў агністай ненавісьцяй да палітыкі расейскіх самадзержцаў, якія наважылі «як скацінай варочаць» нашым народам.

Цанава распраўляецца з нашай гісторыяй паводля паліцыйнага густу. «Градоначальник приказал» — вось ягоны прынцып. Увесь нацыянальны беларускі рух — ад ягонага пачатку аж да вяршаліннага моманту, да прагалошаньня незалежнасьці БНР ды цягласьці гэтых традыцыяў — Цанава абвяшчае справай антынароднай, няўдзячнай і няўдачнай спробаю вузенькага кола нацыяналістычнай інтэлігенцыі. Каб зганьбіць беларускі рух, Цанава паслугуецца улюбёным, унівэрсальным у савецкіх умовах сродкам — абвяшчае ўвесь рух «шпіёнскай дзейнасьцяй» то накарысьць Немцаў, то Палякаў, то Французаў і Ангельцаў, то, нарэшце, Амэрыканцаў, што асабліва прапагуецца сяньня, як найбольш палітычна спэкуляцыйнае. Дзеля гэтага фальшуюцца факты, падзеі, наклейваюцца ярлыкі, як спосаб аргумэнтацыі й пастраху.

Вось колькі фактаў.

Беларускі Нацыянальны Камітэт, створаны ў Менску 25 сакавіка 1917 г. для ўжыцьцяўленьня агульна-нацыянальнага фронту, паводля Цанавы — гэта «контррэвалюцыйны цэнтр». Дэлегаты 1-га Усебеларускага Кангрэсу, які адмовіўшы савецкую ўладу, абвесьціў дэмакратычна-рэспубліканскі лад на Беларусі, для Цанавы — змоўнікі й зраднікі «народных інтарэсаў». Рада Кангрэсу, дзейнасьць якой прывяла да абвешчаньня незалежнасьці БНР — «штаб нацыяналістычнай контррэвалюцыі». Антыбальшавіцкае збройнае змаганьне сялянскай Случчыны — «кулацкае» паўстаньне; усе ўдзельнікі беларускага руху — замежныя найміты й шпіёны і г. д.

Так, нацыянальны рух і бальшавізм ніколі нічога супольнага ня мелі міжсобку. Пры першым сутыку адразу выявілася сьмяротная варожасьць бальшавізму да народных незалежніцкіх імкненьняў. Бальшавізм меў мэтаю ўсьцерагчы былую расейскую імпэрыю ад распаду і ў імя гэтага ён збройна змагаўся з нацыянальнымі рухамі прыгнечаных у гэтай імпэрыі нерасейскіх народаў.

Што азначае давесьці антынароднасьць незалежніцкага руху, узначаленага прыхільнікамі БНР? Гэта азначала-б ператварыць яго ў прыватную справу кучкі сэпаратыстых, адарваць ад народнага руху запраўдную нацыянальную мэтаімклівасць, абяскрыліць яго — інакш кажучы, сьцьвердзіць, што народ ніколі ня меў гэткіх імкненьняў. А калі гэтак — тады ўжо лёгенька прыпісаць бальшавіком і правадырства, і шчодрую дабрадзейнасьць, якая выявілася ў дараваньні БССР. Мэта вельмі важная, бо яна перадае ўсю ініцыятыву ў нацыянальным пытаньні ў рукі бальшавікоў, робіць іх адзінымі гаспадарамі нацыянальнай справы й дзеля гэткай мэты варта навет усю гісторыю перакуліць дном угору. Гэтым перакульваньнем гісторыі й займаецца ўжо колькі дзесяткаў гадоў савецкая прапаганда, на дапамогу якой, як найцяжэйшая артылерыя, наважыў падасьпець навет сам міністар МВД.

Хлусіць Цанава, калі цьвердзіць, што расейскія бальшавікі ад самага пачатку нібы пайшлі насустрач «нацыянальным жаданьням» беларускага народу, а народ пайшоў «у нацыянальным пытаньні» за імі. Якая дзіўная, але й падазроная гармонія!

Агульнаведама, што да захопу ўлады, у часе захопу й доўгі час пасьля бальшавікі навет ня прызнавалі ніякага беларускага пытаньня, Беларусь для іх заставалася ўсё тым-жа паўночна-заходнім краем ці проста заходняй «областью» Расеі, яны навет сваіх арганізацыяў не называлі беларускімі. Патрэбна было адбыцца важным нацыянальным падзеям, каб бальшавікі зьмянілі свой пагляд. І гэтыя падзеі, як выяўленьне спрадвечных імкненьняў, прышлі: І-ы Ўсебеларускі Кангрэс, падрыхтова шырокага антыбальшавіцкага збройнага выступленьня і, нарэшце, прагалошаньне незалежнасьці БНР. Толькі пасьля гэтага бальшавіцкія правадыры сьпехам перайначваюць сваю тактыку, прызнаюць за Беларусамі права нацыі ды 1-га студзеня 1919 г. абвяшчаюць БССР, каб, як

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

**ПАЭМА**
**(Працяг)**

10)

I ў Сымонкі прад вачыма
Ўсталі родныя куты,
Хата бацькава, радзіма,
Грушы дзікія, платы...
I якая гэта доля —
Ласкі мацеры ня знаць,
Казкі, песьні свайго поля
На чужыя памяняць?!
Ды ня век быць пад прыгонам:
Ён на свой лад зажыве —
Думкі ёсьць у галаве —
Не жартуйце-ж вы з Сымонам!
А тымчасам коні гулка
Б'юць па бруку капытом.
Вось масточак і рачулка
Зь сітняком і чаратом.
Ідуць домікі радамі
З акяніцамі, садамі,
Каля вокан геаргіні,
Ружы кусьцікі і мак
I гарошак бледна-сіні
Між тых красак, бы прымак.
А там, далей, камяніцы,
Рынак, крамы, пустыры,
Манастыр, касьцёл, капліца
I муры, муры, муры...
Ад касьцёлу іх дарога
У бок крута павярнула,
На падмурку мільгатнула
Постаць нейкага сьвятога
У сутане, рукі ўзьдзеты,
Вочы ўзьведзены кудысь,
Бы за грошы замак гэты
Шле малітвы ён увысь.
Перад імі, як талерка,
Ціха кругліцца, блішчыць,
Зьзяе возера-люстэрка,
А над возерам стаіць
Замак грозны, замак хмуры;
Валы, бойніцы відаць,
Няпрытульна і панура
Сьцены гэтыя глядзяць.
Замак меў адну дарогу —
Вузкі насып між вады.
«Тут ня выйдзеш, як з астрогу...
Эх, куды папаў! Куды!»
Так Сымонка сам з сабою,
К замку едучы, гадаў.
Нейкім страхам і жудою
Гэты замак патыхаў.
Вось і ўезд у двор замковы —
У мурох нібы нара;
Гучна стукаюць падковы,
Бы дае тут знаць гара,
Што сюды хтось уяжджае —
Госьць няпрошаны, чужы.
Вось зьбяжыцца стража злая!
Калі вораг ты — дрыжы!
Але зараз ціха стала,
Грук замёр ад капытоў.
А ноч косы расплятае,
Мрок вылазіць з-за кустоў
I на ліпы воўну сьцеле,
Іх мяняючы абрыс, —
Нібы з прасьніцы кудзеля,
Толькі спушчаны наніз.
Ціха ў замку і нялюдна,
Бы ён вымер, бы пусты.
Сном заснуўшы неабудна,
Як той волат закляты.
Ды дарожкі ўсе ў парадку
I праведзены пад шнур,
Гожы клюмбачкі іградкі
Розных выглядаў-фігур,
I такі йдзе дух пахучы,
Чуць-чуць ветрык патыхне,
А там дзесь у старане
То патухне, то мільгне
Нейкі блеск, агонь бягучы...
Дзіўна ўсё пад гэтым мрокам!...
Без канца вялікі двор —
Не акінуць яго вокам,
Шырыня, разгон, прастор!
Брычка двойчы павярнула,
Тры ўжо мосьцікі мінула
I спынілася — канец!
— Ну, пабудзь-жа тут, хлапец!
Я на момант невялічкі
У кантору забягу —
Яна там, унь, на рагу —
Ліст аддам! — Хурман зьлез з брычкі,
Ідзе, ногі распраўляе,
Бо дарога-ж не малая.
Хлопцу-ж сьцішна зь няпрывычкі.
Зьнік хурман у сутуненьні,
I заціхлі яго крокі,
А Сымонка, адзінокі,
Ловіць зыкі ў натужэньні,
Ды ўсё ціха. Дзесь блізютка
Прамільгнуў кажан вушасты,
У кустох лісток зашастаў,
Нешта піскнула ціхутка,
Тыя-ж дрэвы, нібы зданьні,
Пазіраюць грозна-строга,
Бы цікуюць на малога
У маўклівым разважаньні.
Тут знаёмы толькі зоры
I прыветны зь ім, лагодны;
Той-жа вобраз мілы, родны,
Той-жа блеск іх у прасторы...
Ша, ідуць! Замёр хлапчына:
Глуха тухкае хурман,
А за ім ідзе мужчына,
Незнаёмы нейкі пан.
— Ну, сказаў хурман: — злазь, сынку!
Тут табе і хлеб і дом.
Дык служы-ж цяпер паном!
Што-ж? у добрую часінку! —
I спытаўся пан замковы:
— Гэта ён музыка й ёсьць?
— Ён, ён самы, ягамосьць;
Ну, сынок, бывай здаровы! —
Зьлез Сымонка і са скрыпкай
За «ягомасьцем» ідзе.
Пан ягомасьць паліць піпку,
Сам сабе пад нос гудзе;
А калёсы мерным стукам,
Коні гучным капытом
Адклікаюцца адгукам,
Як апошнім тым зьвяном,
Што злучала хлопца з полем
I з прасторамі лугоў...
Зашчымела сэрца болем:
Зноў чыясь чужая воля,
Ўлада новых абцугоў!
Колькі крокаў шлі маўкліва,
Потым пан пачаў пытаць
З насьмяханьнем і жартліва:
Дзе вучыўся хлопец граць,
Як натрапіў ён на князя,
Як дабіўся ласкі там,
(Ды яму ўва ўсякім разе
Трэба помніць, што ён — хам).
I з сабою пан мармоча:
«Ну, пабачым, што за жог.
Як ён заўтра засьвяргоча
I капусту і гарох».
Хлопец толькі гляне скоса:

А. БАБАРЭКА

# Паэма „Сымон Музыка“ Якуба Коласа

I

> . . . Бо і ў тэй цішы заклятай
> Ёсьць і голас і свой твар,
> Рознастайны і багаты,
> Поўны музыкі і чар.
>
> Я. Колас — «Сымон Музыка».

Разьвіцьцё беларускай паэзіі, пачынаючы ад 19-га сталецьця, спраўляе ўжо трэці круг сваёй гісторыі, круг, зьвязаны з рэвалюцыяй на Беларусі.

Першы круг, што вызначаецца іменьнямі шляхэцкіх пісьменьнікаў — Баршчэўскага, Рыпінскага, Чачота . . . і самага яскравага зь іх Дуніна-Марцінкевіча, — характэрны сваёю накіраванасьцю да «асьветніцтва». Спалячаная беларуская шляхта часу названых пісьменьнікаў, прымушаная ходам гісторыі агляну́цца наўкола сябе, каб знайсьці апору сабе, вылучае з свайго стану лібэральных у сваім часе пісьменьнікаў. Праз гэтых пісьменьнікаў літаратура на Беларусі становіцца на службу шляхэцкім інтарэсам, якія і падказваюць ёй кірунак, а разам з культурным узроўнем часу і яе «асьветніцкі» характар. У сьвет зьяўляюцца літаратурныя творы, пісаныя ў польскай, польскай і беларускай мовах разам і ў аднэй беларускай, якія адрасуюцца ня толькі да шляхты, але й да «простага люду», да «мужыка» з мэтай яго асьветы. Выпрацоўваюцца дзеля гэтага адпаведныя літаратурныя формы вершаваных аповесьцяй, камэдый, навучальных вершаў. Разьвіваецца стыль зваротаў да «простага люду» ў мове «мужыцкай», штодзеннай, зваротаў да шляхты, разьвіваецца стыль «саладчавых» і «сьмешных» вершаваных казаньняў . . . Усё гэта, часта ня ў меру, перасыпаецца народнымі песьнямі, прыказкамі, анэкдотамі . . . Але літаратура, прасякнутая асьветніцкімі тэндэнцыямі і разрываючыся супярэчнасьцямі між ідэяй і формай, не змагла ў гэным часе даць каштоўных твораў па шырыні й глыбіні іх выяўленьня жыцьця, а таксама й па сіле творча-мастацкай. Творы, што засталіся ад гэтага часу ў спадчыну й нам, значны толькі як факты, што самым сваім зьяўленьнем у сьвет паказалі на існаваньне народу, які мае сваю мову і сваю вусную творчасьць, ад якіх можа з часам вырасьці й сапраўды Мастацкае Слова, слова новае, прасякнутае й новай ідэяй, што сьпелілася ўжо і ў гэны час у нетрах беларускіх працоўных мас пад карою нацыянальнай і сацыяльнай няволі. Гэты голас «цішы» й выбіваецца на сьвет у другім крузе гісторыі беларускае паэзіі.

Дзьверы другога кругу адчыняюцца моцным голасам Ф. Багушэвіча, выхадца таксама з шляхты, а такога, што канчатко́ва зьвязвае свае інтарэсы з інтарэсамі народу (разумеючы пад гэтым сялянства і яго інтэлігенцыю) і ня робіць ужо разьмежаваньня, як яго папярэднікі, між сабою, як паэтам, і селянінам, усьвядомленым сацыяльна і нацыянальна. Ф. Багушэвіч пачынае адраджэнскі круг у гісторыі беларускай літаратуры і грамадзкасьці, характэрны сваёю накіраванасьцю да ўсебаковага самавызначэньня Беларусі. Завяршэньне гэтага кругу адбываецца ўжо ў нашу эпоху, эпоху рэвалюцыйную, поруч з нараджэньнем і разьвіваньнем трэцяга кругу.

Сярод іншых кругоў — адраджэнскі самы багаты і рознастайны, які здолеў выявіць вялікія творча-мастацкія магчымасьці, што тояцца ў нетрах беларускіх працоўных масаў, і даў такія літаратурна-мастацкія дары, якія ніколі не забудуцца працоўнымі калісь «забранага краю». Адраджэнскі круг вызначаецца такімі іменьнямі як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Зьмітрок Бядуля, якія самавызначаліся ў беларускай літаратуры, як паэты-мастакі, а таксама цэлай пляядай драбнейшых паэтаў і пісьменьнікаў, часамі самабытных, а часамі подгаласкаў волатаў адраджэнскага мастацкага слова. У гэтым крузе зьліваліся ў адзін голас адраджэньня самыя рознастайныя галасы, якія йшлі і ад сялянства, і ад работніцтва, і ад інтэлігенцыі нацыянальна ўсьвядомленых. Літаратура ў гэты час і слуга адраджэньня і слуга красы і хараства беларускага. Мастацкім словам адраджэнцы карыстаюцца ня толькі для абуджэньня нацыянальнай і сацыяльнай сьвядомасьці ў працоўных масах Беларусі, гэтым словам яны самавызначаюцца наогул у мастацтве. Яны самі твораць гэта слова, як слова, што мае каштоўнасьць культурна-мастацкую, а ня толькі нацыянальна-сацыяльную. Яны твораць падмурак для такога слова, што мела-б значэньне ня вузка нацыянальнае або сацыяльна-групавое, але й агульна-людзкое. Яны пракладаюць шлях да слова такога, што зьявілася-б новым скарбам у агульналюдзкай культурна-мастацкай скарбніцы. Словам, адраджэнскі круг — гэта выяўленьне магутнасьці творчага духу беларускіх працоўных мас у іх змаганьні за сваё нацыянальна-сацыяльнае вызваленьне, у іх змаганьні за культурна-мастацкае самавызначэньне і месца сярод іншых культурных народаў сьвету.

Пры ўсім адзінстве гэтага кругу па сваёй асноўнай ідэі і імкненьню да адраджэньня, у ім зьмяшчаецца, часта, праўда, толькі ў стане зараджэньня, надзвычайнае багацьце рознастайнасьцяй з якімі ня можа зраўняцца ні адзін з рэшты кругоў, нават і наш рэвалюцыйны з яго шматлічнасьцю паэтаў і пісьменьнікаў. Тут знаходзім пачатак і мастацкай прозы (Каганец. Цётка, Ядвігін Ш., Т. Гушча, Жывіца і інш.), і драмы і камэдыі. Тут, у лірычнай паэзіі адасабляюцца самыя рознастайныя віды, удасканальваецца самы верш, паэтычная мова, вызначаюцца шляхі далейшага разьвіцьця беларускай літаратуры, нараджаецца паэтыка, крытэрыі мастацкага, выяўляюцца самыя рознастайныя тэндэнцыі ў імкненьнях да мастацкіх формаў — ад народнай песьні — да апошняга слова сымбалістычнай школы. Словам, адраджанізм закладае моцную аснову і вызначае магчымасьці для далейшага разьвіцьця беларускай літаратуры. Усё гэта чакае сваіх дасьледчыкаў і літаратурных ацэнак. Усё гэта чакае разьвіцьця ў школы і кірункі мастацкія.

Ціша для другіх ня ціша ў сабе, а галасы і галасы рознастайныя і багатыя. Адраджэнцы ўмелі чуць гэтыя галасы і іх выяўляць сваім мастацкім словам. Так, Янка Купала сваёю творчасьцю выяўляе сьвету веліч і магутнасьць голасу імкненьняў і волі, якія жылі ў беларускіх працоўных масах пад карою цішы. Так, Якуб Колас сваімі творамі выяўляе багацьце эмоцыянальнае, якое тоіцца ўнутры гэтых самых мас. Так, М. Багдановіч выяўляе багацьце і здольнасьці разумовыя. Іншыя стораны выяўляюцца іншымі паэтамі — часам, праўда, без належнага мастацкага афармаваньня. Так стварылася літаратурна-мастацкае люстра для жыцьця беларускіх працоўных мас. І «песьнямі зрабіліся страшэнныя стогны пакуты», як кажа паэта З. Бядуля.

**(Заканчэньне на 7-ай балоне)**

# „Навука“ на падмогу акупацыі

(Агляд рэцэнзіі першага тому «Гісторыі БССР»)

Пасьля даўгіх абмяркоўваньняў макетаў, спасыланьняў на прамовы Сталіна й Бэрыі, перарабляньня й дапасоўваньня цэлых разьдзелаў да прамоваў новага начальніка паліцыі, беларуская савецкая гісторапісь спладзіла нарэшце першы том «Гісторыі БССР», падрыхтаваны калектывам навуковых супрацоўнікаў Інстытуту гісторыі Акадэміі навук БССР і Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту.

Кніжкі гэтае мы ня мелі яшчэ ў руках, і пазнаёміць зь ёю нашых Чытачоў можам пакульшто на аснове зьмешчанай у «Зьвязьдзе» з 4-га верасьня сёлета рэцэнзіі двух кандыдатаў гістарычных навук, таварышаў З. Капыскага й Е. Лук'янава. Ад іх мы даведваемся, што:

«21 разьдзел кнігі асьвятляе гісторыю Беларусі са старажытнейшых часоў да перамогі буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў лютым 1917 году. Аўтары», — пішуць рэцэнзэнты, — «імкнуліся перадаць разнастайнасьць гістарычнай творчасьці народу ва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця: эканамічнай, палітычнай, духоўнай (г. зн. духовай — Я. З.). Карыстаючыся вялікім і яркім матар'ялам, аўтары здолелі паказаць канкрэтны зьмест гістарычнага працэсу развіцьця Беларусі.»

Разглядам дэталяў і агульнага характару «разнастайнай гістарычнай творчасьці» і «канкрэтнага зьместу гістарычнага працэсу разьвіцьця Беларусі» займуцца нашыя навукоўцы, калі ім пашчасьціць атрымаць гэную «гісторыю». Мы абмяжуемся да паасобных характарыстык і зацемак, на якія дазваляе нам, зьмешчаная ў «Зьвяздзе», рэцэнзія.

Вось што мы даведваемся ад тав. Капыскага й Лук'янава пра першы том «Гісторыі БССР»:

«Кніга пераканаўча раскрывае **агульнасьць паходжаньня, гістарычнага лёсу і задач грамадзкага разьвіцьця рускага, беларускага й украінскага народаў.** (Усе падкрэсьленьні ў цытатах — нашыя — Я. З.) . . . Барацьба народных мас, накіраваная супраць сацыяльнага й іншаземнага прыгнёту, на **ўз'еднаньне з рускім народам у адзінай Расійскай дзяржаве,** была рашаючым фактарам усяго зьместу гісторыі беларускага народу. Разьдзел, які паказвае вызваленчую барацьбу беларускага народу сумесна з украінскім народам **за ўз'еднаньне з Расіяй у 1648—1654 гадах,** належыць да лепшых старонак кнігі. Правільна падкрэсьліваючы **імкненьне працоўных мас Беларусі да ўз'еднаньня з Расіяй як пастаянную мэту ўсёй іх вызваленчай барацьбы,** аўтары недастаткова ахарактарызавалі эканамічныя прадпасылкі ўз'еднаньня Беларусі з Расіяй, не падкрэсьлілі тую акалічнасьць, што для гарадоў Беларусі сувязі з гарадамі Рускай дзяржавы былі асновай, рашаючым фактарам іх эканамічнай дзейнасьці. У кнізе паказаны важнейшыя рысы культуры беларускага народу . . ., пачуцьцё брацтва да **вялікага рускага** народу. Пры асьвятленьні барацьбы працоўных мас, разьвіцьця культуры аўтары грунтоўна рас-

**(Заканчэньне на 7-ай балоне)**

УЛАДЗІМЕР ДУДЗІЦКІ

## ДЛЯ НЕСЬМЯРОТНАЙ БЕЛАРУСІ

**(з паэмы «Маіх уяў ружовых ранкі»)**

Ад болю ўсё яшчэ гудзе
разгневанае цела краю . . .
Жыве яно, — не памірае:
употайкі цяпло грудзей
ягоных сьцеліць травы поля;
і як ні смаж іх, ні палі —
празь ськівы чорныя ральлі
яны зірнуць такі на волю;
крамянай сьвежасьцю вясны
умыюцца. Расой валогі
спалошча мораку цьвілога
зара усходу сьлед квасны,
і усьміхнецца поле хатам;
і як ні смаж іх, ні мары —
убачаць зноў гаспадары
сваіх клапотаў плён багаты.

*

І хмелем паху пульхны хлеб
змацуе пах акрас і варыў.
І сонца спогаднае хмары —
асеньніх днёў жалобны крэп —
спатоліць, даўшы волю спору.
І як ні смаж іх, ні чарні —
праб'юцца спору карані
у грунт зямлі, зьнябыўшы морак,
напояць сочывам руды,
асьмяглы, глейкі мякіш глебы;
і зашумяць у сінь, у неба
шыракалістыя сады,
налітыя крамяным воскам . . .
І як ні смаж іх, ні пячы —
яны — найлепшы супачын
гаспадару — тубыльцу вёскі.

*

І не спаружыцца з красы
краіны зводнік чалавека:
лугоў краса, гаі і рэкі,
азёры думныя, лясы —
найдаражэйшы скарб прыроды . . .
І як ні смаж яго, ні плюшч,
расьціме й жыць для насалоды,
але-ж ня зьверу, а людзтву,
бо зьвер, як быў, і будзе зьверам . . .
І я ня дам ніколі веры,
што мор надыйдзе хараству!
Усё, жыве і жыць што мусіць,
што сьпеліць зорная асецьць, —
на хвалях прышласьць прынясе
для несьмяротнай Беларусі!

ЛЯВОН СЛУЧЧАНІН

## АЎТАЭПІГРАМА

На цукровым тоўстым чане
верш пісаў Лявон Случчанін.
Хоць у чане цукар бродзіць —
верш салодкім ня выходзіць.

Пашчасьлівіла Лявону
выпіць пляшку самагону
І тады за час кароткі
напісаў ён верш салодкі.

**1944. Уэльцен, Нямеччына.**

Але раз быў зроблен воступ;
Пушча-цемра ў зімні час
Чула рог і людзкі поступ
За ўсё жыцьцё першы раз.
І пакрыўдзілася пушча:
Хто ступіць сьмеў у яе?
І знак грозны нявідушча
Верным служкам падае.
Устае мядзьведзь, вылазіць
І, угнуўшы галаву,
Садзіць просьценька на князя —
Разарву, моў, разарву!
І, як бура, націскае
Князь злажыўся і — бах-бах!
Зьвер на лапы прысядае,
Зубы выскаліў і — шах!
Хто быў блізка — прэч з дарогі!
Князю некуды ўцякаць, —
«Аман», думае нябога,
Стрэльбы некаму падаць.
А мядзьведзь вось-вось адплаціць,
На два крокі ўжо падбег,
Падабраць ён князя кваціць,
Ды ў той момант — шусь у сьнег!
— Кінь ты, княжа, сваю жынку,
Каб ня сьмела пудлаваць!
Вось дзе стрэльба! Паядынку
Стаў Даніла выхваляць!
— Хай зьвязаў я лыкам рулю,
Але пудла не дала,
І глядзі, якую дулю
У чмыс зьверу паднясла! —
Князь Данілу абнімае.
— Ты жыцьцё мне дараваў! —
Як аддзякаваць, ня знае.
— Што табе даць? — запытаў.
Паляшук-лясьнік абцёрся,
Вынуў люльку з капшуком,
Крок назад ступіў, прыпёрся
Ён да хвоі плячуком.
— Памяняйма, князь, на люлькі, —
Кажа проста паляшук: —
А ў прыдачу да крывулькі
Я табе, князь, дам капшук. —
Засьмяяўся князь, вымае
Сваю люльку, аддае,
А Даніла разглядае,
Рады, цешыцца зь яе.
З тога часу ўжо ніколі
Князь яго не забываў
І пасаду, лес і поле,
Ён яму падараваў.
Прыяжджае князь, бывала,
На Палесьсе паляваць, —
Па Данілу пасылалі
Князя ў лесе праваджаць.
І ніхто так, як Даніла,
Ня знаў пушчы тэй, лясоў.
Гадавала і ўскарміла
І Данілу, бы зьвяроў,
Шыр балотаў нясканчоных,
Пушчаў дзікіх гушчары,
І ў яе таемных лонах
Чуўся панам у двары.
Потым князь забраў Данілу,
Прыпісаў яго ў свой двор,
Хоць яму і больш быў мілы
Бор палескі, родны бор.
Дзед Даніла парк вартуе,
Службу верна ён нясе,
Ўсе агледзіць і прачуе,
Ўсе кутыператрасе.
Тая-ж вопратка мужыча —
Сьвітка рудая і брыль.
Дзед Даніла ціха смыча,
Сам з сабою штось мармыча, —
Мо' Палесься казка-быль
Дзеду думкі ўзварушыла,
Пушча ў памяці ўсплыла,
І душа па ёй тужыла, —
Паляцела-б, каб магла.
Дзед пад хвояй штось зважае,
Павярнуў, ідзе туды.
— А ты хто такі? — пытае:
Баравік ты малады?
— Я — замковы, дзедка Божы.
Ці ня можна тут пабыць?
Тут так добра, гэтак гожа,
Лес — што зь небам гаманіць. —
Усьміхнуўся дзед Даніла.
— Любіш, хлопча, лес? . . Эгэ-ж,
Хараство ў лясочку, сіла . . .
А ты тут даўно жывеш?

IV

— Эхе-хе, мая дзяціна, —
Уздыхнуў Даніла дзед:
— Падрабнела і людзіна,
Падрабнеў цяпер і сьвет.
А лясоў ты настаяшчых,
Бачу, хлопчыку, ня знаў,
Нетры, нечушаў лядачых —
Дзе табе! — ня сустрачаў.
Ты падумай толькі: пушча!
Дзень ідзеш і два ідзеш.
І такая табе гушча —
Вокам цемры не праб'еш.
І такія дзеравякі
Ты натрапіш, брат, у ёй,
Што прад імі стане ўсякі
Падзівіцца іх красой.
Тоўшч і веліч — страх праймае,
Волас дыбам устае!
А як пушча загуляе,
Зашуміць ды запяе!
Вось дзе музыка — паслухаць . . .
Але пушча больш маўчыць,
Ды ня ўсякім носам зьнюхаць,
Што ў нутрох яе ляжыць . . .
Ня быў ты ў вялікім лесе:
Войдзеш — сьвята вее ў ім,
А ўгары, зялёнай стрэсе,
Цягне сьпевам маладым.
І заўваж, мой хлопча-колас,
Дрэва кожнае ў бары
Мае свой асобны голас,
А зацягнуць угары —
Сьпеў выходзіць самавіты,
Эгэ-ж, хлопчыку мой, так:
Лес гаворыць, а скажы ты, —
Не паверыць аніяк . . .
А лес, хлопча, хоць ён дзікі,
Але мудры і дзіўны,
Сэнс ён мае патайны,
Асабліва бор вялікі. —
Дзед прымоўк у задуменьні
І, панізіўшы свой голас,
Зноў гаворыць:
— Вось здарэньне,
Ты паслухай, што было раз:
Знаў я пушчу на Палесьсі . . .
Што за дзіва? стаў я чуць
Нейкі шум у яе стрэсе,
Незнаёмы, асаблівы,
Голас жаласны тужлівы,
Дрэвы смутна нейк гудуць.
У другіх лясох — нічога,
Там звычайны гоман-шум,
А ў тэй пушчы — плач, нябога!
Я гадаў і думаў многа,
Так і гэтак браў на вум,
Не разблутаў тэй загадкі.
Так аб ёй я і забыў.
Раз зімою пад Калядкі
Зноў я пушчай прахадзіў.
І што-ж? пушча тым-жа ладам
Шум цягнула свой тужліва.
Ну, аж проста брала дзіва:
Дзе прычына гэтым звадам? . .
Што-ж ты думаў? — тую пушчу
Адкупілі гандляры,
І праз сэрца, яе гушчу,
Перашлі іх тапары. —

(Далей будзе)

# Будуем Катэдральны Сабор

Мне ўспомніўся вось некалі чуты абразок-апавяданьне: тры каменшчыкі працавалі над абрабленьнем камянёў. Калі іх папытаўся падарожны, што яны робяць, першы зь іх мэханічна адказаў: «я шліфую камень», другі сказаў — «я зарабляю на дабрабыт для свае сям'і», а трэйці прамовіў — «я будую катэдральны сабор».

Гэты трэйці каменшчык у сваёй сьціплай працы бачыў вялікую мэту, ён будаваў сабор.

І мне насунулася неяк дыгрэсія з намі — палітычнымі эмігрантамі і ўсплыло пытаньне: што-ж робім мы — ці абслугоўваем толькі мэханічна нейкую машыну на хвабрыцы, ці зарабляем на аўта ці тэлевізыю, ці будуем катэдральны сабор? І як я не разглядалася, гэтых будаўнічых сабору пабачыла ў меншыні. Толькі невялікая частка нашай эміграцыі працуе сьведама над пабудоваю нашага вялікага, сьветлага, нацыянальнага сабору — нашай незалежнай, вольнай Бацькаўшчыны.

А рэшта? Рэшта паступова за матарыяльнымі справамі згубіла й губляе гэтую асноўную мэту — яна бачыць толькі эгаістычна ў сваёй працы матарыяльныя мэты. А, здавалася-б, так лёгка можна гэта пагадзіць, трэба было-б толькі не забывацца, а памятаць усьцяж, што-б мы не рабілі, мы будуем катэдральны сабор.

Кажная найменшая зборка, кажная найменшая нацыянальная арганізацыя, кажная акадэмія ці выстаўка, нашая прэса й выдавецтва, нашая нацыянальная царква, уканцы грамадзкая праца кажнай паасобнай адзінкі — гэта ўсё каменьні для нашага сабору. І мы будуем яго, магчыма й памалу, магчыма зь цяжкасьцямі й перашкодамі, але ўпорыста й стала, крок за крокам да мэты . . .

Толькі што ня ўсе мы пры гэтай справе, далёка ня ўсе.

А так патрэбная ёсьць дапамога ўсіх, усяе нашае эміграцыі, калі ня беспасярэдняя, дык хоць пасярэдняя, хоць зразуменьне й спагад, хоць пэўнае матарыяльнае падтрыманьне. Бо й узапраўды могуць быць найздальнейшыя майстры й мастакі, але калі ня стане матарыялу, калі ня хопіць пяску ці вапны, спыніцца праца над пабудоваю нашага Сабору.

Дык усё зводзіцца да нашага згоднага й ахвярнага супрацоўніцтва, да нашага ўдзелу ў супольным вялікім задуме.

Як знайсьці, угадаць тую шчасьлівую часіну, каб словы трапілі да сэрцаў і выклікалі чын. А ёсьць такія шчасьлівыя часіны. У сьцюдзёны вечар на прадвесьні сёлета прамовіў у Парыжы да францускага грамадзтва просты і сьціплы сьвятар а. П'ер па радыё. Ён сказаў, што ад холаду ў найбяднейшым квартале Парыжа замерзла дзіцё і прызваў да дапамогі, прасіў апекі над іншымі бесхацінцамі. У выгодных фатэлях цёплых люксусовых памешканьняў выслухалі заможныя парыскія мяшчане ягоны апэль — ці першы раз ім іх слухаць — аднак гэтым разам заклік быў зроблены ў тую шчасьлівую часіну. І стаўся ўзапраўды цуд: кажны адгукнуўся на заклік, і пакеты зь цёплай вопраткаю і коўдрамі засыпалі месцы зборак, цэлымі гадзінамі стаялі ахвярадаўцы ў чарзе, каб выканаць свой хрысьціянскі абавязак, каб здаць сваю ахвяру. На сьценах разваленага бараку ў тым-жа найбяднейшым квартале Парыжа, які займае а. П'ер. зьявіўся падпіс: «Грошавыя ахвяры пакідай тут!» — і ўсе сьцены баракў хутка пакрыліся банкнотамі. Збуджанае сумленьне хрысьціянскае любові дало калясальныя вынікі. Грошаў хапіла ня толькі для забясьпечаньня кватэрамі ўсіх бяздомных, начуючых пад мастамі і на вуліцах, але новапабудаваныя за іх жыльлёвыя блёкі разьвязалі раз назаўсёды пытаньне апекі над бяздомнымі ў Парыжы і ягонай ваколіцы. Шматлікія сталоўкі выдавалі праз усе месяцы цёплую страву, ня пытаючыся, хто ты й скуль.

А ўсё гэта рэзультат аднаго заклікаў у тую шчасьлівую хвіліну.

Як знайсьці падобную хвіліну нам, якімі словамі прамаўляць, як прасіць? Як знайсьці дарогу да нашых беларускіх заможных мяшчанаў, якія ў цёплых памешканьнях сядзяць пры радыё ці тэлевізыйных апаратах, як зварушыць іх сумленьне? У нас, праўда, не памерла дзіцё ад холаду, але ў нас паміраюць дзеці духова, паміраюць для нашае Бацькаўшчыны, робяцца Амэрыканцамі, Ангельцамі і г. д. Тут патрэбнае супрацоўніцтва ўсіх, патрэбна беларуская — хоць тыднёвая школа, патрэбна беларуская кніжка, трэба, каб бацька гэту кніжку купіў і даў яе ў рукі свайму дзіцяці. Трэба, каб і сам бацька й маці чыталі беларускую кніжку. А што ёсьць у нас? Кніжак мала, бо няма грошай; нямногія нашыя друкаваныя часапісы й газэты змагаюцца ўсьцяж з матарыяльнымі цяжкасьцямі. Сьціплая спроба даць нашым дзецям хоць невялікі матарыял для чытаньня ў роднай мове, у выглядзе «Каласкоў», дадатку да «Бацькаўшчыны» спыненая, няма грошай. І ня шмат ужо на гэты апошні часапіс тых грошай было трэба — 300 нямецкіх марак за нумар на аплату друкарні і некалькіх кліш, бо ўся іншая праца выконвалася бязінтарасоўна — гэта 80 амэрыканскіх даляраў; хапіла-б, каб 80 асобаў ахвяравала па адным даляры, ці 40 па 2 — здавалася-б, не такая ўжо й вялікая сума. Але няма гэтых 80 — ці 40 асобаў паміж намі. Неяк атупела, астыла нашае грамадзкае сумленьне, якраз тады, калі матарыяльныя магчымасьці ўзрасьлі. Здаецца, яшчэ так нядаўна ў лягерах Нямеччыны мы ўсе так дружна й ахвярна супрацоўнічалі з усімі нашымі арганізацыямі, выдавецтвамі, дружна й ахвярна змагаліся з усімі недахопамі й патрэбамі, узгадоўвалі нашых дзяцей у сваіх беларускіх гімназіях і скаўтынгах, давалі розныя складкі, працэнты й падаткі, і то давалі дабраахвотна й дружна, разумеючы патрэбу дзейнасьці нашых грамадзкіх установаў. Сяньня інакш, сяньня бальшыня з нас забылася аб сваіх сяброх у Нямеччыне, забылася аб нашых нацыянальных арганізацыях, нашых выдавецтвах, адсунулася ад іх, пачынае забывацца мовы свае беларускае, глядзіць абыякава на духовую сьмерць дзяцей сваіх.

Мне давялося прыпадкам спаткаць у Нямеччыне былага майго вучня з беларускай гімназіі, сяньня Амэрыканца, аб якім зь мінулых часоў засталося ў мяне такое мілае ўражаньне. Ён пазнаў мяне, падыйшоў і загаварыў да мяне парасейску. У гутарцы зь ім, я з жахам пабачыла, як загінулі, зарасьлі дзірваном у душы ягонай тыя здаровыя зярняткі, якія так старачна засяваліся ў ягонай дзіцячай душы беларускім настаўнікам. Дык гэта быў усё-ж былы вучань беларускай гімназіі. А як-жа гадуецца, што думае, чым жыве нашая моладзь у заакіянскіх краінах сяньня, якая ня знала беларускай школы, ні беларускага настаўніка, ні беларускай кніжкі? На гэтае пытаньне няхай кажны адкажа сабе сам.

Дык ёсьць прычына біць трывогу, ёсьць прычына зварочвацца і прасіць супрацоўніцтва і ахвярнасьці, каб ня спынялася, не застойвалася нашая праца над пабудовай вялікага сабору. Калі ня ўмеем, ня можам ці ня маем часу будаваць самі, дайма магчымасьць рабіць гэта іншым. Пачнём з малога, кажны ад сябе: ахвяруем на грамадзкую справу маленькую частку свайго заработку, але яе ахвяруем; заплацім залегласьці ў арганізацыях, успомнім аб нашых братах у Нямеччыне, дамо даляр на беларускую кніжку, зробім гэта!

Ці пройдзем абыякава над гэтымі справамі, ня зьвернем увагі, усядземся яшчэ выгадней у фатэлі перад тэлевізіяй, абложымся амэрыканскімі бруковымі газэтамі і будзем спакойна прыглядацца да нацыянальнае сьмерці сваіх дзяцей?

Трэба самавызначыцца — ці мы эгаістычна зарабляем сабе на аўта, ці будуем Беларускі Катэдральны Сабор?!

З. С.

### АД АДМІНІСТРАЦЫІ

**Усіх нашых падпішчыкаў, што атрымліваюць газэту не за пасярэдніцтвам нашых кальпартэраў, але непасрэдна з Адміністрацыі, просім разьлічвацца за газэту толькі з кальпартэрамі, перасылаючы на іхны адрас належную аплату.**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

# Блазны і агрэсары

Нядаўна савецкі пасол у Вялікай Брытаніі Якаў Малік адведаў шкоцкую прамысловую выстаўку ў Эдынбургу. Калі яму паказалі найнавейшы тып ангельскай гарматы, Малік дэманстрацыйна адвярнуўся задам да небясьпечнага экспанату й крыкнуў з тэатральным патасам: «Я не хачу на гэта глядзець! Я чалавек міру, а не вайны! . .»

Таварыш Малік мае на Захадзе апінію неблагога дыпляматы й спэцыялістага ад абструкцыяў на міжнародных арэнах. Аднак гэты нумар яму ня ўдаўся. Усе глядзелі на ягоную патэтычную позу, як на прадукцыю цырковага клёўна.

У газэце «Праўда» з 17-га верасьня зьмешчана кароценькае паведамленьне ТАСС-у аб выпрабаваньні новага гатунку атамнага аружжа. На заканчэньне падкрэсьліваецца, што дасьветчаньні з гэтага атамнага выбуху «спрычыняцца да пасьпяховага вырашэньня заданьня абароны ад атамнага нападу».

Нажаль, небясьпека якогась нападу на Савецкі Саюз існуе толькі ў уяўленьні камуністычнай прапаганды дзеля прыкрыцьця гэтай дымовай заслонай агрэсыўных плянаў камуністычнай дыктатуры, якой ваенная машына працуе поўнай парай дзень і ноч. Нядаўна ангельская прэса апублікавала весткі аб аграмаднай разбудове савецкага ваеннага флёту. Бальшавіцкая прапаганда войстра зарэагавала на гэту вестку, намагаючыся даказваць, што гэта няпраўда, дэклямуючы пры гэтым аб мірнай разбудове савецкай прамысловасьці. У вапошнім часе Савецкі Саюз завальвае докі заходніх краінаў заказамі на будову гандлёвых гараплаваў. Зноў-жа пры гэтым прапагандовая барабаншчына аб мірных мэтах. А фактычна справа выглядае інакш: усе шматлікія савецкія докі нагвалт будуюць ваеннаморскія адзінкі, будовы якіх з усім зразумелых прычынаў Саветы ня могуць даручыць заходнім варштатам.

У дэмакратычным сьвеце ўсё ёсьць ведамым грамадзтву. Калі глядзім на дзяржаўны бюджэт, то бачым канкрэтныя лічбы. Таму, убачыўшы, што бюджэт прадугледжвае на штосьць 45%, ведаем, што гэта ёсьць лік рэальны, бо падлягаючы грамадзкаму кантролю. Савецкі-ж бюджэт гэта — кабалістычная матэматыка, якую могуць расшыфраваць толькі крамлёўскія верхаводы. Часам толькі прыпадкова даведваемся, што, напрыклад, з прадугледжанай сумы на будову трактараў 20% ідзе на трактары, а 80 — на танкі. Камуністычная дыктатура ня вылічаецца яні з сваіх плянаў, ані зь іх выкананьня.

У вапошнім часе Савецкі Саюз зьвяртае вялікую ўвагу на запалярныя прасторы. Шмат пішацца аб навуковых экспэдыцыях на розных «дрэйфуючых кры-

(Заканчэньне на 8-ай балоне)

# „Навука“ на падмогу акупацыі

(Заканчэньне з 6-ай балоны)

крываюць узрастаючыя й мацнеючыя сувязі з рускім рэвалюцыйна-дэмакратычным рухам, з **передавой рускай культурай. . . . Глыбокі й жыватворны ўплыў рускай клясычнай літаратуры** й мастацтва на рост ідэйнага і мастацкага багацьця беларускай літаратуры . . . пераканаўча й грунтоўна паказаны на радзе фактаў і прыкладаў. Адмятаючы фальсыфікатарскія сьцьвярджэньні, быццам беларускі народ ня меў свайго пралетарыяту, аўтары даказалі, што фарміраваньне пралетарыяту ў Беларусі ішло як за лік мясцовага насельніцтва, так і за лік кваліфікаваных рускіх рабочых, якія былі носьбітамі **самых баявых рэвалюцыйных традыцый.** На гэтай аснове адбывалася далейшае збліжэньне і ўмацаваньне дружбы **вялікага рускага** і беларускага народаў. Ідучы за рускім рабочым класам, пралетарыят Беларусі выходзіць на арэну рабочага руху, як **неад'емная частка арміі расійскага пралетарыяту.** Аўтары падкрэсьліваюць, што эканамічнае разьвіцьцё Беларусі йшло ў **цесным адзінстве** з эканомікай усёй Расіі. Яе (культуры беларускага народу) выдатныя прадстаўнікі ў сваёй творчасьці ня раз падкрэсьлівалі **агульнасьць рэвалюцыйных накіраваньняў беларускага й рускага народаў.»**

Так прадстаўляюць нам тры газэтныя калёнкі рэцэнзіі аснаўны твар новае «гісторыі» БССР. Можна ўявіць сабе, што робіцца ў цэлай кнізе ад дытырамбаў, панэгірыкаў і одаў «жыватворнаму» й «перадавому» «вялікаму народу», у падсуседзі да якога савецкія навукоўцы прыпісваюць гісторыю Беларусі. Чаго-ж іншага можна спадзявацца ад гісторыкаў, што пішуць кнігі пад дыктоўку вялікарускага шавінізму й асыміляцыйных камбінацыяў!

Як бачым, кнігай без засьцярогаў карыстацца нельга. Тым ня менш, цікава было-б пазнаёміцца зь ёй бліжэй, аб чым паклапоцяцца хіба нашы навуковыя ўстановы. Спадзяемся таксама, што беларускім навукоўцам савецкая гісторыя БССР прыдасца ў вялікай меры, як крыніца інфармацыйная, бо хіба-ж знойдзецца ў ёй, акрамя інтэрпрэтацыі й тэндэнцыйнага падбору гістарычных фактаў, дадзеныя аб'ектыўныя, якія змогуць быць выкарыстаны ў навуковых працах на беларускія тэмы. З гэтага, і толькі з гэтага, гледзішча, выпуск у сьвет першага тому «Гісторыі БССР», трэба адзначыць, як пазытыўны.

Я. З.

# Паэма „Сымон Музыка“ Якуба Каласа

(Заканчэньне з 6-ай балоны)

II

А як песьня панясецца.
Колькі ў песьні тэй нуды.
Уцякаў-бы, бег, здаецца,
Сам ня ведаеш куды.

Я. Колас.

Такім было і жыцьцё. Усе сілы і энэргія йдуць на змаганьне за голае існаваньне. Зусім не застаеца часу, каб любавацца красою сьвету, каб падумаць аб тым, як зрабіць жыцьцё прыгажэйшым. Абы-б мець кусок хлеба чорнага, а не канечна белага, бо пагнаўшыся за белым можаш застацца і бяз ніякага. Такі быў парадак у жыцьці. І чалавек ад раньня да позьняга вечару працуе-змагаецца. Міма волі яго кідаюцца яму ў вочы ў часы гэтай працы прыгожасьці і багацьці прыроды, якія абуджаюць у ім думку ці праўдзівей няяснае пачуцьцё аб тым, што гэтых багацьцяў можа хапіць усім людзям і што жыць можна-б і іначай, вальней і прыгажэй, чым жыве чалавек, прасьвету ніколі ня бачачы. Але ў сьвеце ўсё ўжо разьмяркована, усё распарадкавана і кожнаму вызначана яго месца, у кожнага свая доля. Дык як тут было не зьявіцца смутку. Як стрымацца, каб жаль і тугу сваю ня пусьціць у сьвет песьняю. І нясецца песьня нудная, песьня сумная . . . Хто яе пачуе, хто зразумее . . . Пра гэта ня думаецца. Выказаў жаль свой і — лягчэй робіцца на сэрцы. А там мо' толькі адны пушчы ды гаі і слухаюць яго песьні-жальбы аб тым, чаму гэта «просты чалавек» абавязкова павінен здавальняцца тым, што ёсьць, чаму яму скарацца перад абыякою доляю, калі можна было-б мець і лепшую і прыгажэйшую за яго «залатыя рукі», якая-б задаволіла ня толькі матэрыяльныя патрэбы, але і духоўныя (фармальныя), якая-б давала ня толькі радасьці ад куска хлеба, але і асалоду жыцьця прыгожага.

Імчыцца песьня ў сьвет, што ад яе «уцякаў-бы й бег, здаецца, сам ня ведаючы куды». Песьня-ж гэта — само жыцьцё, сама доля працоўных сялян. Якуб Колас сваёй чуткаю душою адчуў гэту песьню-жыцьцё, ня ціхай цішы, і ўзбунтаваўся сваімі творамі супроць сьвядомасьці, што «такая ўжо доля» бедняка, супроць зьмірэньня з тым, што ёсьць, супроць цярплівасьці і цягненьня ярма нявольніцтва і бяспраўнасьці працоўнага ва ўмовах існуючага (да рэвалюцыі) парадку. Але гэта бунт пачуцьця, гэта бунт чулай і мяккай душы. Гэта голас цішы задумнай і засмучонай. Самым моцным выражэньнем яго ў слове і ёсьць паэма «Сымон Музыка». Гэрой гэтай паэмы, Сымон, — гэта жывая постаць таго, што выражана ў адным з раньніх вершаў Коласа словамі «уцякаў-бы, бег, здаецца, сам ня ведаеш куды» ад гукаў нуднай песьні, песьні беларускай. вёскі. А песьня гэта — само жыцьцё. Сымон змалку сваёй чуткаю душою перажыў гэту песьню і вынес яе на сваіх плячох, будучы выгнаным з хаты, дзе панавала беднасьць. У жыцьці ён чуе яе яшчэ ня раз, і кожны раз ад яе «ўцякае». Жыцьцё жабрака, жыцьцё карчмы, жыцьцё ў замку — усё гэта нудныя песьні, ад якіх уцякае Сымон, «сам ня ведаючы куды». Усё гэта кругі, праз якія праходзіць Сымон, будучы гнаным бядотаю, няйменьнем месца на зямлі сярод людзей для чалавека з чуткаю душою, для чалавека, што радзіўся, каб казаць людзям пра прыгожасьць прыроды, пра тое, як можна жыць на зямлі. Але ня ўсё цёмна ў гэтых кругах. Цёмны толькі самы кругі на сьветлым і поўным прыгожасьці фоне прыроды. Пасучы яшчэ авечкі (круг жыцьця дома), Сымон спаткаў дзеда Курылу, які адгадаў у ім талент музыкі і перадаў яму сьпярша дудку, а потым і скрыпку. У крузе жыцьця з жабраком Сымон спатыкае чулую дзяўчынку Ганну, вобраз якой ужо ні на момант не пакідае яго і дае яму сілы ўсё зносіць. У крузе жыцьця ў карчме Сымон спатыкае Яхіма, у замку — дзеда Данілу. Праўда, усе гэтыя вобразы выяўлены эскізна і як-бы ня зусім дарысаваны, але ўсё-ж і ад іх ужо вее новай песьняю. Гэта вобраз людзей, у якіх перад усім ёсьць душа, якія жывуць пачуцьцямі і жывымі думкамі. Гэта ўжо тая песьня, якая вабіць да сябе Сымона, але ня можа цалком захапіць, будучы апранутаю ў старую кару. І толькі з Ганнаю, як падае ў канцы паэмы паэта, Сымон пачаў новы, другі круг жыцьця, толькі яе ён ня кідае, толькі ад яе не ўцякае. На гэтым апускаецца заслона. Ці ўцёк Сымон ад нуднай песьні жыцьця, якое беднатою гоніць з дому, якое прымушае даведацца і долі жабрака, і долі паслугача ў карчме, і долі забаўніка ў замку, невядома. Адно толькі ёсьць — гэта новая песьня, песьня Сымона Музыкі, якая гаворыць аб тэй супярэчнасьці, што ёсьць у жыцьці між таленавітаю і чулаю асобаю (а асоба гэта ўвесь беларускі народ па азначэньню А. Гаруна) і тымі парадкамі і ўмовамі жыцьця, у якіх нарадзілася і жыве гэта асоба. Гэта песьня гаворыць аб тым, што песьняру-музыку няма месца ў кругох паднявольнага жыцьця.

Сымон Музыка — гэта вобраз беларускага паэты-адраджэнца, які сваю энэргію пясьнярскую аддаваў перад усім на змаганьне за нацыянальную і сацыяльную сьвядомасьць працоўнага люду беларускага, а таму і тварыў адпаведную песьню ды сам пракладаў ёю «пясьнярскую каляіну» ў жыцьці. Сымон Музыка гэта вобраз багацьця «сьвежых крыніц» беларускай вёскі, якія гараць жаданьнем вясны, «людзям бліскучай зоркай у іх цемрадзі зазьзяць і сказаць ім, як шчасьліва можна жыць і на зямлі», гараць красою адбітых у іх глыбі зор і бязьмежжа горных сьветаў», будучы абмяжованы берагамі рэальнага штодзеннага клапатлівага жыцьця. Жыцьцё-ж гэта — як-бы кусты на ўлоньні прыроды, але кусты лазовыя, у якіх свой лад і строй, што вымагаюць ад усякага, хто зьяўляецца ў іх, дапасаваньня да сябе, але не наадварот. Так пабудавана і паэма.

Вёска з яе бядотаю, у якой раджаецца Сымон, у якой праходзяць яго дзіцячыя гады, і якая яго праганяе — гэта першы куст, які ў пэўнай меры адбівае сабою шырокае сацыяльнае зьявішча: выкіданьне вёскаю «лішніх душ», нараджэньне пралетараў у выніку павялічэньня сям'і пры нязьменнасьці зямлі, на якой працуе і якою жыве сям'я. Адгэтуль пачынаецца вандраваньне па іншых кустох.

Жабрак-прафэсыянал, калі льга так азначыць яго, які эксплёатуе Сымона, іх цеганіна ад вёскі да вёскі, у якой спатыкае Сымон розных людзей і сярод іх Ганну, вобраз якой «ад усіх ясьней-ярчэй зьзяў, бы зорачка ў тумане, мілым усьмехам вачэй» — гэта другі куст жыцьця, які сымбалізуе сабою «падарожных» у жыцьці, гатовых зарабляць-жабраваць чужым дарам, гатовых на няшчасьці будаваць свой нікчэмненькі дабрабыцік і нажываць капітал.

Карчма, куды пападае Сымон, уцёкшы ад жабрака, зь вядомым Шлёмкаю, які — «як-бы ты ні быў зь ім груб — і парадзіць ды і выпіць даць ня скуп, абы толькі былі грошы, няма грошай — напавер, — адным словам жыд харошы, толькі й ты яму адмер», карчма з сваім брудна-дробным рахункам, з сваімі «правамі, звычаем і ўрадам», карчма, што друзіць талент «на пыл» і робіць з мастака рамесьніка, жывым уганяе ў магілу — гэта трэці куст жыцьця, што сымбалізуе сабою пусьціўшых карэньні пры дарозе.

Замак, куды забірае Сымона князь, пачуўшы яго граньне ў лесе, як Сымон уцёк з карчмы, замак зь яго надворным бляскам пазалоты і галотаю, што «сланяецца каля плота, у гразі яна ляжыць», замак з пустэчаю ўнутры ад перасычэньня, які вось Сымона бярэ «для панскае ўцехі і для забаўкі паноў» — гэта чацьверты куст, што найяскравей адбівае сабою падзяленьне людзей на два няроўных станы: пануючых і падняволеных.

Уцякае Сымон і з гэтага куста і прыходзіць у пяты, дзе жыве яго любая Ганна, якую сілаю свайго каханьня і граньня на скрыпцы вяртае да жыцьця. На гэтым заслона ападае. Апошні куст сымбалізуе нараджэньне новага ад злучэньня дзьвёх стыхій — песьні і каханьня на родных каранёх, з якіх пачатак новага куста, куста кветак роднай краіны. Сымон ня мог разьвіцца ў першым кусьце, дзе вырас, ня мог ён і прышчапіцца на тых кустох, на якія ўськідала яго жыцьцё «бо ён прыроджаны пясьняр», як характарызуе яго паэта, і пачынае сабою новы куст жыцьця, ён пачынае новую каляіну, каляіну пясьнярскую ў жыцьці сярод кустоў лазовых. «Панёс ён людзям песень дар — агонь душы і сэрца жар, панёс пясьнярскай каляінай». Толькі багацьце душы, толькі вялікая сіла імкненьня, якая здолела перацярпець столькі на сваім жыцьці і вынесьці свой дар незаплямленым і непадружаным на пыл, не разьмененым на дробную манэту, за якую можна было што-хаця купіць, нават і белы пірог з панскага стала ў замку, толькі нязьменнасьць самому сабе, толькі моц тэй акавіты, якая ў яго жылах ад родных каранёў, толькі моцнае каханьне лілеі — Ганны (сымбалічны вобраз маладой Беларусі), толькі ўсё гэта дало магчымасьць Сымону выжыць і зацьвісьці кветкаю на задумна-маўклівых палёх Беларусі, толькі яно здолела даць пачатак новай каляіне ў жыцьці беларускіх працоўных мас. І вось Беларусь мае Сымона рэальнага ў постаці пляяды паэтаў-адраджэнцаў. З нуднай песьні нарадзілася першая радасьць — пачатак мастацкай літаратуры беларускай.

(Заканчэньне будзе)

# Будуем Катэдральны Сабор

Мне ўспомніўся вось некалі чуты абразок-апавяданьне: тры каменшчыкі працавалі над абрабленьнем камянёў. Калі іх папытаўся падарожны, што яны робяць, першы зь іх мэханічна адказаў: «я шліфую камень», другі сказаў — «я зарабляю на дабрабыт для свае сям'і», а трэйці прамовіў — «я будую катэдральны сабор».

Гэты трэйці каменшчык у сваёй сьціплай працы бачыў вялікую мэту, ён будаваў сабор.

І мне насунулася неяк дыгрэсія з намі — палітычнымі эмігрантамі і ўсплыло пытаньне: што-ж робім мы — ці абслугоўваем толькі мэханічна нейкую машыну на хвабрыцы, ці зарабляем на аўта ці тэлевізыю, ці будуем катэдральны сабор? І як я не разглядалася, гэтых будаўнічых сабору пабачыла ў меншыні. Толькі невялікая частка нашай эміграцыі працуе сьведама над пабудоваю нашага вялікага, сьветлага, нацыянальнага сабору — нашай незалежнай, вольнай Бацькаўшчыны.

А рэшта? Рэшта паступова за матарыяльнымі справамі згубіла й губляе гэтую асноўную мэту — яна бачыць толькі эгаістычна ў сваёй працы матарыяльныя мэты. А, здавалася-б, так лёгка можна гэта пагадзіць, трэба было-б толькі не забывацца, а памятаць усьцяж, што-б мы не рабілі, мы будуем катэдральны сабор.

Кажная найменшая зборка, кажная найменшая нацыянальная арганізацыя, кажная акадэмія ці выстаўка, нашая прэса й выдавецтва, нашая нацыянальная царква, уканцы грамадзкая праца кажнай паасобнай адзінкі — гэта ўсё каменьні для нашага сабору. І мы будуем яго, магчыма й памаду, магчыма зь цяжкасьцямі й перашкодамі, але ўпорыста й стала, крок за крокам да мэты...

Толькі што ня ўсе мы пры гэтай справе, далёка ня ўсе.

А так патрэбная ёсьць дапамога ўсіх, усяе нашае эміграцыі, калі ня беспасярэдняя, дык хоць пасярэдняя, хоць зразуменьне й спагад, хоць пэўнае матарыяльнае падтрыманьне. Бо й узапраўды могуць быць найздальнейшыя майстры й мастакі, але калі ня стане матарыялу, калі ня хопіць пяску ці вапны, спыніцца праца над пабудоваю нашага Сабору.

Дык усё зводзіцца да нашага згоднага й ахвярнага супрацоўніцтва, да нашага ўдзелу ў супольным вялікім задуме.

Як знайсьці, угадаць тую шчасьлівую часіну, каб словы трапілі да сэрцаў і выклікалі чын. А ёсьць такія шчасьлівыя часіны. У сьцюдзёны вечар на прадвесьні сёлета прамовіў у Парыжы да францускага грамадзтва просты і сьціплы сьвятар а. П'ер па радыё. Ён сказаў, што ад холаду ў найбяднейшым квартале Парыжа замерзла дзіцё і прызваў да дапамогі, прасіў апекі над іншымі бесхацінцамі. У выгодных фатэлях цёплых люксусовых памешканьняў выслухалі заможныя парыскія мяшчане ягоны апэль — ці першы раз ім іх слухаць — аднак гэтым разам заклік быў зроблены ў тую шчасьлівую часіну. І стаўся ўзапраўды цуд: кажны адгукнуўся на заклік, і пакеты зь цёплай вопраткаю і коўдрамі засыпалі месцы зборак, цэлымі гадзінамі стаялі ахвярадаўцы ў чарзе, каб выканаць свой хрысьціянскі абавязак, каб здаць сваю ахвяру. На сьценах разваленага бараку ў тым-жа найбяднейшым квартале Парыжа, які займае а. П'ер, зьявіўся падпіс: «Грошавыя ахвяры пакідай тут!» — і ўсе сьцены барака хутка пакрыліся банкнотамі. Збуджанае сумленьне хрысьціянскае любові дало калясальныя вынікі. Грошаў хапіла ня толькі для забясьпечаньня кватэрамі ўсіх бяздомных, начуючых пад мастамі і на вуліцах, але новапабудаваныя за іх жыльлёвыя блёкі разьвязалі раз назаўсёды пытаньне апекі над бяздомнымі ў Парыжы і ягонай ваколіцы. Шматлікія сталоўкі выдавалі праз усе месяцы цёплую страву, ня пытаючыся, хто ты й скуль.

А ўсё гэта рэзультат аднаго заклiку ў тую шчасьлівую хвіліну.

Як знайсьці падобную хвіліну нам, якімі словамі прамаўляць, як прасіць? Як знайсьці дарогу да нашых беларускіх заможных мяшчанаў, якія ў цёплых памешканьнях сядзяць пры радыё ці тэлевізыйных апаратах, як зварушыць іх сумленьне? У нас, праўда, не памерла дзіцё ад холаду, але ў нас паміраюць дзеці духова, паміраюць для нашае Бацькаўшчыны, робяцца Амэрыканцамі, Ангельцамі і г. д. Тут патрэбнае супрацоўніцтва ўсіх, патрэбна беларуская — хоць тыднёвая школа, патрэбна беларуская кніжка, трэба, каб бацька гэту кніжку купіў і даў яе ў рукі свайму дзіцяці. Трэба, каб і сам бацька й маці чыталі беларускую кніжку. А што ёсьць у нас? Кніжак мала, бо няма грошай; нямногія нашыя друкаваныя часапісы й газэты змагаюцца ўсьцяж з матарыяльнымі цяжкасьцямі. Сьціплая спроба даць нашым дзецям хоць невялікі матарыял для чытаньня ў роднай мове, у выглядзе «Каласкоў», дадатку да «Бацькаўшчыны» спыненая, няма грошай. І ня шмат ужо на гэты апошні часапіс тых грошай было трэба — 300 нямецкіх марак за нумар на аплату друкарні і некалькіх кліш, бо ўся іншая праца выконвалася бязінтарасоўна — гэта 80 амэрыканскіх даляраў; хапіла-б, каб 80 асобаў ахвяравала па адным даляры, ці 40 па 2 — здавалася-б, не такая ўжо й вялікая сума. Але няма гэтых 80 — ці 40 асобаў паміж намі. Неяк атупела, астыла нашае грамадзкае сумленьне, якраз тады, калі матарыяльныя магчымасьці ўзрасьлі. Здаецца, яшчэ так нядаўна ў лягерах Нямеччыны мы ўсе так дружна й ахвярна супрацоўнічалі з усімі нашымі арганізацыямі, выдавецтвамі, дружна й ахвярна змагаліся з усімі недахопамі й патрэбамі, узгадоўвалі нашых дзяцей у сваіх беларускіх гімназіях і скаўтынгах, давалі розныя складкі, працэнты й падаткі, і то давалі дабраахвотна й дружна, разумеючы патрэбу дзейнасьці нашых грамадзкіх установаў. Сяньня інакш, сяньня бальшыня з нас забылася аб сваіх сяброх ў Нямеччыне, забылася аб нашых нацыянальных арганізацыях, нашых выдавецтвах, адсунулася ад іх, пачынае забывацца мовы свае беларускае, глядзіць абыякава на духовую сьмерць дзяцей сваіх.

Мне давялося прыпадкам спаткаць у Нямеччыне былага майго вучня з беларускай гімназіі, сяньня Амэрыканца, аб якім зь мінулых часоў засталося ў мяне такое мілае ўражаньне. Ён пазнаў мяне, падыйшоў і загаварыў да мяне парасейску. У гутарцы зь ім, я з жахам пабачыла, як загінулі, зарасьлі дзірваном у душы ягонай тыя здаровыя зярняткі, якія так старачна засяваліся ў ягонай дзіцячай душы беларускім настаўнікам. Дык гэта быў усё-ж былы вучань беларускай гімназіі. А як-жа гадуецца, што думае, чым жыве нашая моладзь у заакіянскіх краінах сяньня, якая ня знала беларускай школы, ні беларускага настаўніка, ні беларускай кніжкі? На гэтае пытаньне няхай кажны адкажа сабе сам.

Дык ёсьць прычына біць трывогу, ёсьць прычына зварочвацца і прасіць супрацоўніцтва і ахвярнасьці, каб ня спынялася, не застойвалася нашая праца над пабудовай вялікага сабору. Калі ня ўмеем, ня можам ці ня маем часу будаваць самі, дайма магчымасьць рабіць гэта іншым. Пачнём з малога, кажны ад сябе: ахвяруем на грамадзкую справу маленькую частку свайго заработку, але яе ахвяруем; заплацім залегласьці ў арганізацыях, успомнім аб нашых братах у Нямеччыне, дамо даляр на беларускую кніжку, зробім гэта!

Ці пройдзем абыякава над гэтымі справамі, ня зьвернем увагі, усядземся яшчэ выгадней у фатэлі перад тэлевізіяй, абложымся амэрыканскімі бруковымі газэтамі і будзем спакойна прыглядацца да нацыянальнае сьмерці сваіх дзяцей?

Трэба самавызначыцца — ці мы эгаістычна зарабляем сабе на аўта, ці будуем Беларускі Катэдральны Сабор?!

**З. С.**

### АД АДМІНІСТРАЦЫІ

**Усіх нашых падпішчыкаў, што атрымліваюць газэту не за пасярэдніцтвам нашых кальпартэраў, але непасрэдна з Адміністрацыі, просім разьлічвацца за газэту толькі з кальпартэрамі, перасылаючы на іхны адрас належную аплату.**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

# Блазны і агрэсары

Нядаўна савецкі пасол у Вялікай Брытаніі Якаў Малік адведаў шкоцкую прамысловую выстаўку ў Эдынбургу. Калі яму паказалі найнавейшы тып ангельскай гарматы, Малік дэманстрацыйна адвярнуўся задам да небясьпечнага экспанату й крыкнуў з тэатральным патасам: «Я не хачу на гэта глядзець! Я чалавек міру, а не вайны!..»

Таварыш Малік мае на Захадзе апінію неблагога дыпляматы й спэцыялістага ад абструкцыяў на міжнародных арэнах. Аднак гэты нумар яму ня ўдаўся. Усе глядзелі на ягоную патэтычную позу, як на прадукцыю цырковага клёўна.

У газэце «Праўда» з 17-га верасьня зьмешчана кароценькае паведамленьне ТАСС-у аб выпрабаваньні новага гатунку атамнага аружжа. На заканчэньне падкрэсьліваецца, што дасьветчаньні з гэтага атамнага выбуху «спрычыняцца да пасьпяховага вырашэньня заданьня абароны ад атамнага нападу».

Нажаль, небясьпека якогась нападу на Савецкі Саюз існуе толькі ў уяўленьні камуністычнай прапаганды дзеля прыкрыцьця гэтай дымовай заслонай агрэсыўных плянаў камуністычнай дыктатуры, якой ваенная машына працуе поўнай парай дзень і ноч. Нядаўна ангельская прэса апублікавала весткі аб аграмаднай разбудове савецкага ваеннага флёту. Бальшавіцкая прапаганда войстра зарэагавала на гэту вестку, намагаючыся даказваць, што гэта няпраўда, дэклямуючы пры гэтым аб мірнай разбудове савецкай прамысловасьці. У вапошнім часе Савецкі Саюз завальвае докі заходніх краінаў заказамі на будову гандлёвых параплаваў. Зноў-жа пры гэтым прапагандовая барабаншчына аб мірных мэтах. А фактычна справа выглядае інакш: усе шматлікія савецкія докі нагвалт будуюць ваеннаморскія адзінкі, будовы якіх з усім зразумелых прычынаў Саветы ня могуць даручыць заходнім варштатам.

У дэмакратычным сьвеце ўсё ёсьць ведамым грамадзтву. Калі глядзім на дзяржаўны бюджэт, то бачым канкрэтныя лічбы. Таму, убачыўшы, што бюджэт прадугледжвае на штось 45%, ведаем, што гэта ёсьць лік рэальны, бо падлягаючы грамадзкаму кантролю. Савецкі-ж бюджэт гэта — кабалістычная матэматыка, якую могуць расшыфраваць толькі крамлёўскія верхаводы. Часам толькі прыпадкова даведваемся, што, напрыклад, з прадугледжанай сумы на будову трактараў 20% ідзе на трактары, а 80 — на танкі. Камуністычная дыктатура ня вылічаецца яні з сваіх плянаў, ані зь іх выкананьня.

У вапошнім часе Савецкі Саюз зьвяртае вялікую ўвагу на запалярныя прасторы. Шмат пішацца аб навуковых экспэдыцыях на розных «дрэйфуючых кры-

(Заканчэньне на 8-ай балоне)

# „Навука“ на падмогу акупацыі

(Заканчэньне з 6-ай балоны)

крываюць узрастаючыя й мацнеючыя сувязі з рускім рэвалюцыйна-дэмакратычным рухам, з **передавой рускай культурай. ...Глыбокі й жыватворны ўплыў рускай клясычнай літаратуры** й мастацтва на рост ідэйнага і мастацкага багацьця беларускай літаратуры... пераканаўча й грунтоўна паказаны на радзе фактаў і прыкладаў. Адмятаючы фальсыфікатарскія сьцьвярджэньні, быццам беларускі народ ня меў свайго пралетарыяту, аўтары даказалі, што фарміраваньне пралетарыяту ў Беларусі ішло як за лік мясцовага насельніцтва, так і за лік кваліфікаваных рускіх рабочых, якія былі носьбітамі **самых баявых рэвалюцыйных традыцый.** На гэтай аснове адбывалася далейшае збліжэньне і ўмацаваньне дружбы **вялікага рускага** і беларускага народаў. Ідучы за рускім рабочым класам, пралетарыят Беларусі выходзіць на арэну рабочага руху, як **неад'емная частка арміі расійскага пралетарыяту.** Аўтары падкрэсьліваюць, што эканамічнае разьвіцьцё Беларусі йшло ў **цесным адзінстве** з эканомікай усёй Расіі. Яе (культуры беларускага народу) выдатныя прадстаўнікі ў сваёй творчасьці ня раз падкрэсьлівалі **агульнасьць рэвалюцыйных накіраваньняў беларускага й рускага народаў.»**

Так прадстаўляюць нам тры газэтныя калёнкі рэцэнзіі аснаўны твар новае «гісторыі» БССР. Можна ўявіць сабе, што робіцца ў цэлай кнізе ад дытырамбаў, панэгірыкаў і одаў «жыватворнаму» й «перадавому» «вялікаму народу», у падсуседзі да якога савецкія навукоўцы прыпісваюць гісторыю Беларусі. Чаго-ж іншага можна спадзявацца ад гісторыкаў, што пішуць кнігі пад дыктоўку вялікарускага шавінізму й асыміляцыйных камбінацыяў!

Як бачым, кнігай без засьцярогаў карыстацца нельга. Тым ня менш, цікава было-б пазнаёміцца зь ёй бліжэй, аб чым паклапоцяцца хіба нашы навуковыя ўстановы. Спадзяемся таксама, што беларускім навукоўцам савецкая гісторыя БССР прыдасца ў вялікай меры, як крыніца інфармацыйная, бо хіба-ж знойдзецца ў ёй, акрамя інтэрпрэтацыі й тэндэнцыйнага падбору гістарычных фактаў, дадзеныя аб'ектыўныя, якія змогуць быць выкарыстаны ў навуковых працах на беларускія тэмы. З гэтага, і толькі з гэтага, гледзішча, выпуск у сьвет першага тому «Гісторыі БССР», трэба адзначыць, як пазытыўны.

**Я. З.**

# Паэма „Сымон Музыка“ Якуба Каласа

(Заканчэньне з 6-ай балоны)

II

А як песьня панясецца.  
Колькі ў песьні тэй нуды.  
Уцякаў-бы, бег, здаецца,  
Сам ня ведаеш куды.

Я. Колас.

Такім было і жыцьцё. Усе сілы і энэргія йдуць на змаганьне за голае існаваньне. Зусім не застаеца часу, каб любавацца красою сьвету, каб падумаць аб тым, як зрабіць жыцьцё прыгажэйшым. Абы-б мець кусок хлеба чорнага, а не канечна белага, бо пагнаўшыся за белым можаш застацца і бяз ніякага. Такі быў парадак у жыцьці. І чалавек ад раньня да позьняга вечару працуе-змагаецца. Міма волі яго кідаюцца яму ў вочы ў часы гэтай працы прыгожасьці і багацьці прыроды, якія абуджаюць у ім думку ці праўдзівей няяснае пачуцьцё аб тым, што гэтых багацьцяў можа хапіць усім людзям і што жыць можна-б і іначай, вальней і прыгажэй, чым жыве чалавек, прасьвету ніколі ня бачачы. Але ў сьвеце ўсё ўжо разьмяркована, усё распарадкавана і кожнаму вызначана яго месца, у кожнага свая доля. Дык як тут было не зьявіцца смутку. Як стрымацца, каб жаль і тугу сваю ня пусьціць у сьвет песьняю. І нясецца песьня нудная, песьня сумная... Хто яе пачуе, хто зразумее... Пра гэта ня думаецца. Выказаў жаль свой і — лягчэй робіцца на сэрцы. А там мо' толькі адны пушчы ды гаі і слухаюць яго песьні-жальбы аб тым, чаму гэта «просты чалавек» абавязкова павінен здавальняцца тым, што ёсьць, чаму яму скарацца перад абыякою доляю, калі можна было-б мець і лепшую і прыгажэйшую за яго «залатыя рукі», якая-б задаволіла ня толькі матэрыяльныя патрэбы, але і духоўныя (формальныя), якая-б давала ня толькі радасьці ад куска хлеба, але і асалоду жыцьця прыгожага.

Імчыцца песьня ў сьвет, што ад яе «уцякаў-бы й бег, здаецца, сам ня ведаючы куды». Песьня-ж гэта — само жыцьцё, сама доля працоўных сялян. Якуб Колас сваёй чуткаю душою адчуў гэту песьню-жыцьцё, ня ціхай ціпіы, і ўзбунтаваўся сваімі творамі супроць сьвядомасьці, што «такая ўжо доля» бедняка, супроць зьмірэньня з тым, што ёсьць, супроць цярплівасьці і цягненьня ярма нявольніцтва і бяспраўнасьці працоўнага ва ўмовах існуючага (да рэвалюцыі) парадку. Але гэта бунт пачуцьця, гэта бунт чулай і мяккай душы. Гэта голас ціпіы задумнай і засмучонай. Самым моцным выражэньнем яго ў слове і ёсьць паэма «Сымон Музыка». Гэрой гэтай паэмы, Сымон, — гэта жывая постаць таго, што выражана ў адным з раньніх вершаў Коласа словамі «уцякаў-бы, бег, здаецца, сам ня ведаеш куды» ад гукаў нуднай песьні, песьні беларускай. вёскі. А песьня гэта — само жыцьцё. Сымон змалку сваёй чуткаю душою перажыў гэту песьню і вынес яе на сваіх плячох, будучы выгнаным з хаты, дзе панавала беднасьць. У жыцьці ён чуе яе яшчэ ня раз, і кожны раз ад яе «ўцякае». Жыцьцё жабрака, жыцьцё карчмы, жыцьцё ў замку — усё гэта нудныя песьні, ад якіх уцякае Сымон, «сам ня ведаючы куды». Усё гэта кругі, праз якія праходзіць Сымон, будучы гнаным бядотаю, няйменьнем месца на зямлі сярод людзей для чалавека з чуткаю душою, для чалавека, што радзіўся, каб казаць людзям пра прыгожасьць прыроды, пра тое, як можна жыць на зямлі. Але ня ўсё цёмна ў гэтых кругах. Цёмны толькі самы кругі на сьветлым і поўным прыгожасьці фоне прыроды. Пасучы яшчэ авечкі (круг жыцьця дома), Сымон спаткаў дзеда Курылу, які адгадаў у ім талент музыкі і перадаў яму сьпярша дудку, а потым і скрыпку. У крузе жыцьця з жабраком Сымон спатыкае чулую дзяўчынку Ганну, вобраз якой ужо ні на момант не пакідае яго і дае яму сілы ўсё зносіць. У крузе жыцьця ў карчме Сымон спатыкае Яхіма, у замку — дзеда Данілу. Праўда, усе гэтыя вобразы выяўлены эскізна і як-бы ня зусім дарысаваны, але ўсё-ж і ад іх ужо вее новай песьняю. Гэта вобраз людзей, у якіх перад усім ёсьць душа, якія жывуць пачуцьцямі і жывымі думкамі. Гэта ўжо тая песьня, якая вабіць да сябе Сымона, але ня можа цалком захапіць, будучы апранутаю ў старую кару. І толькі з Ганнаю, як падае ў канцы паэмы паэта, Сымон пачаў новы, другі круг жыцьця, толькі яе ён ня кідае, толькі ад яе не ўцякае. На гэтым апускаецца заслона. Ці ўцёк Сымон ад нуднай песьні жыцьця, якое беднатою гоніць з дому, якое прымушае даведацца і долі жабрака, і долі паслугача ў карчме, і долі забаўніка ў замку, невядома. Адно толькі ёсьць — гэта новая песьня, песьня Сымона Музыкі, якая гаворыць аб тэй супярэчнасьці, што ёсьць у жыцьці між таленавітаю і чулаю асобаю (а асоба гэта ўвесь беларускі народ па азначэньню А. Гаруна) і тымі парадкамі і ўмовамі жыцьця, у якіх нарадзілася і жыве гэта асоба. Гэта песьня гаворыць аб тым, што песьняру-музыку няма месца ў кругох паднявольнага жыцьця.

Сымон Музыка — гэта вобраз беларускага паэты-адраджэнца, які сваю энэргію пясьнярскую аддаваў перад усім на змаганьне за нацыянальную і сацыяльную сьвядомасьць працоўнага люду беларускага, а таму і тварыў адпаведную песьню ды сам пракладаў ёю «пясьнярскую каляіну» ў жыцьці. Сымон Музыка гэта вобраз багацьця «сьвежых крыніц» беларускай вёскі, якія гараць жаданьнем вясны, «людзям бліскучай зоркай у іх цемрадзі зазьзяць і сказаць ім, як шчасьліва можна жыць і на зямлі», гараць красою адбітых у іх глыбі зор і бязьмежжа горных сьветаў», будучы абмяжованы берагамі рэальнага штодзеннага клапатлівага жыцьця. Жыцьцё-ж гэта — як-бы кусты на ўлоньні прыроды, але кусты лазовыя, у якіх свой лад і строй, што вымагаюць ад усякага, хто зьяўляецца ў іх, дапасаваньня да сябе, але не наадварот. Так пабудавана і паэма.

Вёска з яе бядотаю, у якой раджаецца Сымон, у якой праходзяць яго дзіцячыя гады, і якая яго праганяе — гэта першы куст, які ў пэўнай меры адбівае сабою шырокае сацыяльнае зьявішча: выкіданьне вёскаю «лішніх душ», нараджэньне пралетараў у выніку павялічэньня сям'і пры нязьменнасьці зямлі, на якой працуе і якою жыве сям'я. Адгэтуль пачынаецца вандраваньне па іншых кустох.

Жабрак-прафэсыянал, калі льга так азначыць яго, які эксплёатуе Сымона, іх цеганіна ад вёскі да вёскі, у якой спатыкае Сымон розных людзей і сярод іх Ганну, вобраз якой «ад усіх ясьней-ярчэй зьзяў, бы зорачка ў тумане, мілым усьмехам вачэй» — гэта другі куст жыцьця, які сымбалізуе сабою «падарожных» у жыцьці, гатовых зарабляць-жабраваць чужым дарам, гатовых на няшчасьці будаваць свой нікчэмненькі дабрабыцік і нажываць капітал.

Карчма, куды пападае Сымон, уцёкшы ад жабрака, зь вядомым Шлёмкаю, які — «як-бы ты ні быў зь ім груб — і парадзіць ды і выпіць даць ня скуп, абы толькі былі грошы, няма грошай — напавер, — адным словам жыд харошы, толькі й ты яму адмер», карчма з сваім брудна-дробным рахункам, з сваімі «правамі, звычаем і ўрадам», карчма, што друзіць талент «на пыл» і робіць з мастака рамесьніка, жывым уганяе ў магілу — гэта трэці куст жыцьця, што сымбалізуе сабою пусьціўшых карэньні пры дарозе.

Замак, куды забірае Сымона князь, пачуўшы яго граньне ў лесе, як Сымон уцёк з карчмы, замак зь яго надворным бляскам пазалоты і галотаю, што «сланяецца каля плота, у гразі яна ляжыць», замак з пустэчаю ўнутры ад перасычэньня, які вось Сымона бярэ «для панскае ўцехі і для забаўкі паноў» — гэта чацьверты куст, што найяскравей адбівае сабою падзяленьне людзей на два няроўных станы: пануючых і падняволеных.

Уцякае Сымон і з гэтага куста і прыходзіць у пяты, дзе жыве яго любая Ганна, якую сілаю свайго каханьня і граньня на скрыпцы вяртае да жыцьця. На гэтым заслона ападае. Апошні куст сымбалізуе нараджэньне новага ад злучэньня дзьвёх стыхій — песьні і каханьня на родных каранёх, з якіх пачатак новага куста, куста кветак роднай краіны. Сымон ня мог разьвіцца ў першым кусьце, дзе вырас, ня мог ён і прышчапіцца на тых кустох, на якія ўськідала яго жыцьцё «бо ён прыроджаны пясьняр», як характарызуе яго паэта, і пачынае сабою новы куст жыцьця, ён пачынае новую каляіну, каляіну пясьнярскую ў жыцьці сярод кустоў лазовых. «Панёс ён людзям песень дар — агонь душы і сэрца жар, панёс пясьнярскай каляінай». Толькі багацьце душы, толькі вялікая сіла імкненьня, якая здолела перацярпець столькі на сваім жыцьці і вынесьці свой дар незаплямленым і непадружаным на пыл, не разьмененым на дробную манэту, за якую можна было што-хаця купіць, нават і белы пірог з панскага стала ў замку, толькі нязьменнасьць самому сабе, толькі моц тэй акавіты, якая ў яго жылах ад родных каранёў, толькі моцнае каханьне лілеі — Ганны (сымбалічны вобраз маладой Беларусі), толькі ўсё гэта дало магчымасьць Сымону выжыць і зацьвісьці кветкаю на задумна-маўклівых палёх Беларусі, толькі яно здолела даць пачатак новай каляіне ў жыцьці беларускіх працоўных мас. І вось Беларусь мае Сымона рэальнага ў постаці пляяды паэтаў-адраджэнцаў. З нуднай песьні нарадзілася першая радасьць — пачатак мастацкай літаратуры беларускай.

(Заканчэньне будзе)